PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 5 (2073) ГОД XLI БЕЛАСТОК 4 ЛЮТАГА 1996 г. ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)



*Зімою ў Старым Корніне.*

## ТЭЛЕФОН 997

бясплатны, але не абазначае гэта, — кажа мне дзяжурны афіцэр, — што можна пасля спалучэння бясконца трындзеліць нейкія глупствы. Тэлефон настаўлены на нядоўгі прамежак часу, пасля якога спалучэнне абрываецца. Часу гэтага, — дадае ён, — аж надта, каб я выцягнуў ад майго суразмоўцы такія даныя як: месца інцыдэнту, яго характар ды прозвішча асобы, якая пра інцыдэнт заяўляе. Апошні элемент абавязковы — часамі да жыцця трэба ставіцца сур'ёзна, а мы, функцыянеры паліцыі, не ў змозе праверыць ананімаў.

Дзяжурны ўстае і перакладае ў магнітафоне касету з плёнкай на другі бок. Тут, — папярэджвае ён маё пытанне, — запісваецца кожная размова. Калі я падымаю трубку, магнітафон прыводзіцца ў ход. Якое значэнне гэтага запісу? — пытаю. Гэты запіс, — паясняе дзяжурны, — часамі абараняе, моцна кажучы, мой задок. Нехта заяўляе мне пра хуліганаў, я пасылаю туды функцыянераў, каб правучылі яны каго трэба і..., у большасці выпадкаў, усё канчаецца. Часамі аднак у камендатуру надыходзяць скаргі ад грамадзян, быццам мы праігнаравалі заяву або зарэагавалі на яе не так, як трэба. Тады менавіта мы выцягваем гэтыя плёнкі і правяраем усё ад пачатку — калі ласка, вось што вы нам нагаварылі.

Раённая камендатура паліцыі на вул. Бэма дзяжурыць кругласутачна. Тэлефон 997 падключаны менавіта сюды. У распараджэнні дзяжурнага маецца таксама „штыўнае" тэлефоннае злучэво з такімі службамі як хуткая дапамога, пажарная часць і г.п. Не трэба набіраць нумару, хопіць націснуць адну кнопку, лініі гэтыя заўсёды свабодныя. Увесь Беласток падзелены на 8 камісарыятаў, а яны ў сваю чаргу — на сектары. У сектарах дзейнічаюць паліцэйскія патрулі. Роля дзяжурнага афіцэра зводзіцца да прымання заяў і адпаведнага накіроўвання патруляў. Інфармацыя хутка трапляе там, дзе трэба, — паясняе дзяжурны, — уся штука заключаецца ў хуткім даездзе да месца інцыдэнту, а гэта ўжо залежыць ад размяшчэння патруляў, якое мяняецца з хвіліны на хвіліну і залежыць ад іхняй ангажаванасці ў бягучыя дзеянні. У нас, на жаль, — працягвае думку дзяжурны, — заўсёды неяк так атрымліваецца, што калі паліцыянт сеў на ровар, злачынца ўжо ездзіў на матацыкле „Юнак", калі селі мы ў „Паланезы", яны пагналіся на „Мерседэсах". Але што тут дамагацца нейкіх цудаў... — тут мы пазіраем у тэлевізар, які паведамляе пра падзеі ў Сейме.

Тарашчыць тэлефон: „малюх" стукнуў пешахода. Дзяжурны якую секунду задумваецца і зараз па радыё накіроўвае патруль — далажыце мне пра сітуацыю, калі будзеце на месцы. Загад быў кароткі і пастароннаму слухачу абсалютна незразумелы — што слова, то нейкі код. Ён неабходны, — паясняе ізноў дзяжурны, — нам трэба дапускаць, што нас слухае таксама не той, хто трэба. У Польшчы ў продажы сапраўды багаты набор радыёапаратуры. Калі імпарцёр апаратуры ўсё зрабіў легальна, паліцэйскія частотнасці былі з яе выкінуты, але не ўсе гэта робяць. Маючы нелегальны радыёпрыёмнік, не так ужо і цяжка падстроіцца пад паліцэйскую частотнасць.

Патруль даехаў да „малюха" і даклaдвае. Шафёр быццам выглядае на цвярозага, але пешаход, які раптоўна ўвайшоў пад машыну — п'янюсенькі, як гаворыцца, у тры... Страшна гэта не выглядае — абышлося на сіняках.

Сёння надзвычай спакойна, — кажа дзяжурны. Тэлефон ажыўляецца пасля 23-цяй. „Правер мне чалавека", адзываецца па радыё патруль. Дзяжурны ўводзіць даныя ў камп'ютэр і аказваецца, што „ён патрэбны" — не заплаціў засуджанай сумы, давядзецца адсядзець арышт. У пакой дзяжурнага заходзіць малады паліцыянт у форме. Я сёння меў ездзіць з „лежаком", — кажа. „Ляжак", як даведваюся, асобень, якога вязецца ў гарызантальнай пазіцыі. Інакш кажучы, такі, які ўжо не ў змозе сядзець проста.

— Такая ўжо гэта праца, — звяртаецца да мяне дзяжурны, — мы мусім збіраць з вуліц гэтых п'янюжкаў і пастаўляць іх на Засцянскую (выцьвярэзнік — А.М.), бо інакш замерзлі б дарэшты. Хто б там ні кіраваў, — ён паказвае ў тэлевізар, — а адмыванне бруду заўсёды застанецца на нас. Тыя з гарадскога МПО то прынамсі ведаюць, што маюць кантэйнеры са смеццем і ўсё. А для нас: бойкі, авантуры, узломы, п'янюгі, неўраўнаважаныя і жонкі, якія не хочуць дагадзіць сваім мужам. Нап'ецца такі, прыйдзе дахаты і тэлефануе да нас, што жонка яму не дае. І што я маю зрабіць? Пасláць хлопцаў, каб яму падлажылі!?

Несур'ёзных заяў на нумар 997 прыблізна палова. Частка гэта зусім глухія тэлефоны, частка — моладзь, якая пасылае ў адрас паліцыі нецэнзурныя эпітэты, яшчэ іншым здаецца, што Валэнса гэта... і трэба яго ў адстаўку, а частка — відушчыя. Актыўнасць гэтых апошніх асабліва насіляецца ў час змены надвор'я.

На пытанне, як маюцца паліцэйскія фільмы да сапраўднай працы паліцыі, дзяжурны адказваў, што гадзіна фільму ў сапраўднасці трывае месяц або і даўжэй. Доказы трэба сабраць, а не выцягнуць пісталет і па справе. А як жа ж з гэтым пісталетам у польскай паліцыі?

— Гэтага столькі, — дзяжурны афіцэр зрабіў тут жэст, паказваючы ў таўшчыню кнігі, якая спісвае выпадкі, у якіх можна выцягнуць пісталет.

— Калі гэтага столькі, — я паўтарыў жэст, — дык пісталет намнога лягчэй выцягваецца злачынцу?

— На жаль, але так.

Польская паліцыя, як і кожная іншая, сарганізаваная ў некалькі аддзяленняў. У гэтым тэксце апісваюцца прэвентыўныя службы, г.зн. тыя, якія ходзяць у форме і якія мы бачым штодзень. Паводле начальніка прэвентыўных службаў Раённай камендатуры ў Беластоку Кшыштафа Маеўскага, найбольшая злачыннасць выяўляецца ў цэнтры горада, у квартале Баяры і квартале Дзесяціны. Перавагу ў злачыннай статыстыцы маюць ваколіцы рэстаранаў, усякіх аб'ектаў забаўляльнага характару, паркі. Агульнае аднак адчуванне такое, што Беласток — бяспечны горад. Паводле апытання, праведзенага ў рамках праграмы „Стратэгія развіцця Беластока", дзве трэці жыхароў горада адчувае сябе бяспечна.

**Аляксандр Максімюк**

*Алена Таболіч*

## Беластоцкія студэнты ў Менску

З прывітаннем да ўсіх беластоцкіх беларусаў — Алена Таболіч, выкладчыца Менскага лінгвістычнага універсітэта, якая працавала ў Гайнаўцы некалькі гадоў таму.

З удзячнасцю і з хваляваннем успамінаю ўсіх, каго ведала і з кім сустракалася на Беласточчыне. І таму, вядома, заўжды іду працаваць у групы, дзе вучацца студэнты з Польшчы. Ды і яны самі пераходзяць да мяне ў групу, калі бачаць маё прозвішча ў раскладзе. Стараюся ім дапамагчы чым магу, нешта раю, а за тое-сёе часам раблю і „наганяй", бо не без гэтага.

Вашым студэнтам, вядома, цяжка прыстасавацца да нашага жыцця, папершае, таму, што адрываюцца ад родных і блізкіх, а па-другое, пры нашым цяперашнім бязладдзі і нашым студэнтам нялёгка вучыцца. Але трываюць разам з намі і стараюцца рабіць тое, для чаго прыехалі, — вучыцца.

Хачу заўважыць, што падрыхтаванасць вашых студэнтаў да першага курса ў цэлым слабей за нашых. У нас цяпер вельмі вялікі конкурс і абітурыенты рыхтуюцца загадзя, бо трэба здаваць тры экзамены толькі на замежнай мове. Вашы студэнты гэта добра разумеюць, і таму працуюць многа. Але не ўсе. Ёсць і ляніўцы, якія часта прапускаюць заняткі, а ёсць і такія, што і няздольныя вывучыць мову.

А наогул, беластоцкія студэнты ўносяць нейкую асаблівую аўру ў групы, дзе яны вучацца, выкладчыкі іх паважаюць за шчырасць, ветлівасць, лагоднасць. Бяда, што прадметы агульнага цыклу выкладаюцца на расейскай мове, але за год—два яны ўжо добра „шпараць" па-расейску, што мне асабіста не падабаецца. Ёсць і такія выкладчыкі, якія дазваляюць адказваць па-польску.

На жаль, некаторыя студэнты (асабліва з Бельска) не жадаюць вывучаць беларускую мову. Можа, таму, што яна для іх пакалення таксама замежная, бо паміж сабою яны гавораць па-польску.

Лепшыя мае студэнты — Ігар Карпюк з Бельска, Эля Матвеюк і Аня Аўласюк з Гайнаўкі (дарэчы, я іх вучыла ў другім класе ліцэя), Эля Мацкевіч з Гданьска. Вы можаце ганарыцца імі.

Студэнты вашы — вельмі настальгічныя асобы. Яны так часта ездзяць дамоў, часам часцей за нашых, а таму прапускаюць лекцыі, адстаюць, прыязджаюць стомленыя. Дэканат мог бы іх і не адпускаць, але яны так лісліва просяцца, што ніводнае сэрца не вытрывае.

А як праводзяць вольны час? Мабыць, хто як. Але часцей за ўсё ходзяць у тэатр, асабліва на балет; ходзяць у царкву, хоць і менш чым дома; сустра-

*Працяг на стар. 8*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polski analfabetyzm zaczyna się od podstawówki. Trzecioklasiści potrafią wykonać szkolne ćwiczenia z języka polskiego i matematyki. Nie umieją na ogół tylko jednego — zrozumieć tego, co przeczytali. Szkolna edukacja jest całkowicie oderwana od życia. Naukę nauczyciele przerzucają na dom rodzinny, sami ograniczając się do sprawdzania postępów ucznia. Dla części rodzin jest to zbyt wielki ciężar i już na starcie grupa dzieci znajduje się w ślepym zaułku...*

*Badania testowe przeprowadzone przez międzynarodowy ośrodek OECD kwalifikuje trzy czwarte Polaków jako wtórnych analfabetów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 7*

* * *

*A jednak agenci są wśród nas. Ten najstarszy zawód świata zaraz po prostytucji okazuje się wciąż przydatny... W dzisiejszych czasach dobra depesza korespondenta agencji prasowej, dobry reportaż mają takie samo znaczenie jak tajna informacja wywiadu. Tyle tylko, że materiał prasowy płynie szybciej, bo nie musi być szyfrowany, a później rozszyfrowywany. Dlatego na wojnie często strzela się do dziennikarzy.*

*Polityka, nr 2*

Таму менавіта Сцяпан Абух піша пра найбольш сакрэтныя справы беларусаў Беласточчыны ў такі спосаб, што ніводная разведка да гэтай пары не можа нічога расшыфраваць.

* * *

*Świętować czy nie świętować? To było pytanie! 27 lipca, w Dniu Niepodległości Białorusi, konsulat Generalny RB w Białymstoku zorganizował uroczysty bankiet w restauracji „Astoria". Na rozesłanych zaproszeniach widniał nowy herb, jako żywo przypominający jedynie słuszne symbole państw muzułmańskich. Z tego powodu niektórzy z zaproszonych gości w bankiecie nie wzięli udziału. Na szczęście nikt tego nie zauważył. Wyszedłby na jaw kolejny rozłam w środowisku białoruskim,* — успамінае мінулы год рэдакцыя штомесячніка

*Czasopis, nr 1*

* * *

*Wynajęcie trzy-, czteropokojowego mieszkania w centrum Moskwy kosztuje 3—4 tys. dolarów miesięcznie! Moskwa stała się jedną z najdroższych stolic świata. Hot-dog kosztuje dolara, wstęp na dyskotekę 20—40 dolarów, kolacja dla dwóch osób w średniej restauracji 100, wynajęcie małego mieszkania co najmniej 1 000, doba w zwykłym hotelu 70—100, a w apartamencie w hotelu Metropol 340—1 800 dolarów. Zdumiewa fakt, że w sklepach w Moskwie jeszcze kręcą się ludzie i jednak coś kupują. W kręgach biznesu wymogiem koniecznym dla zachowania prestiżu stało się posiadanie luksusowej willi z dala od centrum Moskwy. Prestiżowa i zarazem najdroższa dzielnica domów mieszkalnych dla nowej klasy posiadaczy to Rublowskoje Szosse — dawniej willowa dzielnica partyjnej nomenklatury. Tu ceny wahają się od 400 tys. do 1,2 mln dol. za luksusowo wykończony dom. Wzorcowym modelem współczesnej kariery rosyjskiej jest droga od partyjnego aparatczyka do superburżuja, kapitalisty, multimilionera (w dolarach), a wszystko to w ciągu zaledwie kilku lat.*

*Moskwa wielotysięcznych pochodów, łopotu czerwonych sztandarów i portretów ojców rewolucji — odeszła w przeszłość.*

*Gazeta—Mazagyn, nr 1*

Але мала хто ў гэта верыць. Сотні мільёнаў людзей ад Ціхага акіяна да Эльбы далей уяўляе Маскву як сімвал ваюючага пралетарыяту і месцазнаходжання яго ідэйных і бескампрамісных правадыроў. Іншая Масква — асабліва ў вачах нашага люду — пазбаўлена падстаў. Гэта імперыялістычная хлусня, калі хтосьці гаворыць, што таварышы сакратары кампартыі і кадэбісты сталі цяпер капіталістамі ці шэфамі мафіі. Не, яны надалей думаюць пра шчасце працоўных мас усяго свету. Мы таксама ў гэта верым.

* * *

*60 proc. Rosjan lubi Polaków, a jedynie 3 proc. nie podziela tych uczuć. 41 proc. Rosjanek chciałoby wyjść zamąż za Polaka, a 28 proc. Rosjan ożenić się z Polką.*

*Polityka, nr 1*

Аж 3 працэнты палякаў любіць рускіх.

* * *

*Rosja sama nie powinna, przynajmniej na razie, szukać sojuszników, bowiem ci, którzy chcą sojuszu z Rosją, tylko osłabiają jej pozycję,* — сказаў дарадчык Ельцына Юрый Батурын.

*Gazeta Wyborcza, nr 12*

* * *

*Pierwszy podmuch zimy kompletnie zaskoczył drogowców w Białymstoku. Apogeum „klęski żywiołowej" w mieście nastąpiło 23 grudnia. Zgodnie z tradycją pługi wyjechały na ulice z opóźnieniem i być może uporałyby się z niewielką warstwą śniegu, gdyby nie zastosowano nowej technologii odśnieżania: pługi jeździły po ulicach z podniesionymi lemieszami i posypywały jezdnię solą. Na wpół rozpuszczony śnieg był rzadki i rozpływał się z powrotem na jezdnię, a z powodu dużego mrozu zamarzał, tworząc koleiny na jezdni. Przy odśnieżaniu rozpędzone pługi chlapały na wszystkie strony, zalewając zatoki przystankowe, chodniki parkujące samochody i elewacje budynków i ludzi. Dyrektor MPO Stanisław Łazarz stwierdził, że oczyszczanie miasta ze śniegu przebiegało i przebiega wyjątkowo sprawnie. To paranoja — ocenił sposób odśnieżania przypadkowy taksówkarz. Za komuny było lepiej.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 4*

І хто б падумаў, што ў артадаксальна каталіцкай краіне нават снег можа выклікаць настальгію па камуне.

* * *

*Jeśli tak dalej pójdzie, za niecałe dwa lata możemy mieć na Wiejskiej większość, w której Jan Olszewski i Leszek Moczulski będą stanowić umiarkowane centrum.*

*Gazeta Wyborcza, nr 11*

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян** пачаўся ў праваслаўных у Свята-Духаўскай царкве набажэнствам, якое ўзначаліў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Уладыка, між іншым, сказаў: „Толькі дыялог і малітва дапамогуць зразумець рознасць Цэркваў і наблізіць іх да адзінства". Праваслаўныя вернікі маліліся аб дары любві сярод хрысціян. У набажэнстве ўдзельнічалі каталіцкія пробашчы суседніх парафій і манашкі. Урачыстую імшу з нагоды Тыдня ў кафедральнай базіліцы ў Беластоку ўзначаліў архібіскуп **Станіслаў Шымэцкі**. У каталіцкім набажэнстве адсутнічала праваслаўнае духавенства, а прычынай гэтаму было пахаладанне экуменічнага дыялогу, выкліканае непрымірымай пазіцыяй каталіцкіх іерархаў у справе вяртання праваслаўным Супрасльскага манастыра.

**Рэдакцыя штомесячніка „Przegląd Prawosławny"** ужо сёмы раз прысвоіла ўзнагароды імя князя Канстанціна Астрожскага заслужаным для праваслаўнай культуры. У гэтым годзе былучэнні атрымалі арганізатары рэлігійнага і культурнага жыцця: **Багдан Мартынюк** — старшыня Грамадскай камісіі аховы помнікаў царкоўнага мастацтва, **Васіль Піўнік** — стваральнік Фонду падтрымкі развіцця праваслаўнай культуры і **Мікола Матрунчык** — заснавальнік і старшыня Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў у Менску. Лаўрэаты атрымаюць узнагароды падчас адкрыцця Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

**Рэктары вышэйшых навучальных устаноў Беластока** падтрымалі пастанову Сената Варшаўскага універсітэта ад 17 студзеня г.г., у якой выказваецца занепакоенасць дэградацыяй палітычнага жыцця ў Польшчы і заклікаецца парламент знайсці выхад з маральнага і палітычнага крызісу. У пастанове сцвярджаецца, што апошняя выбарчая кампанія і пазнейшыя здарэнні (абвінавачанне прэм'ер-міністра ў шпіянажы на карысць Расеі) прынеслі многа прыкладаў такіх паводзін і дзеянняў галоўных палітыкаў, якія не павінны здарыцца ў цывілізаванай і дэмакратычнай краіне. Усё гэта адмоўна ўздзейнічае на моладзь, узмацняе пачуццё безнадзейнасці і адбівае ахвоту прымаць удзел у грамадскім і палітычным жыцці, схіляе да зневажання такіх каштоўнасцей, як праўда, сумленнасць і гонар. Навукоўцы чакаюць ад парламента дзеянняў, якія вернуць пашану для праўды і законаў, раздзеляць выканаўчую і заканадаўчую ўлады і забяспечаць незалежнасць судаводству.

**У Цеханоўцы** ў Сельскагаспадарчым музеі адбыўся IV Адкрыты калядны агляд, у якім выступіла 13 самадзейных музычных калектываў і хораў. Найбольшае прызнанне слухачоў заваяваў **хор царквы Св. Апосталаў Пятра і Паўла з Сямяціч**.

**Праграмы будучага тэлецэнтра ў Беластоку** праўдападобна будзе можна прымаць на 35 канале, — мяркуе член Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання **Ян Шафранец**. Спадзяецца ён, што неўзабаве Наглядальная рада тэлебачання дасць дабро на стварэнне рэгіянальнага тэлецэнтра ў Беластоку.

**Раённая пракуратура ў Беластоку** закончыла следства супраць шасці жыхароў гэтага горада, якія нелегальна вялі тры таварыскія агенцтвы. Галоўнай сведкай у справе выступае грамадзянка Беларусі Святлана, якая год таму прыехала ў Польшчу з намерам заняцца стрыптызам, а папала ў агенцтва, дзе насільна застаўлялі яе займацца прастытуцыяй.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Фарміраванне Прэзідыума

У ходзе І сесіі Вярхоўнага Савета XIII склікання парламент выбраў свае кіраўніцтва. Старшынёю ВС абраны Сямён Шарэцкі. Першым намеснікам старшыні стаў Васіль Новікаў, а намеснікамі — Юрый Малумаў і Генадзь Карпенка. Вырашана, што ў Прэзідыум ВС апрача старшыні і ягоных намеснікаў увойдуць кіраўнікі дэпутацкіх фракцый, у якіх больш за трыццаць членаў, і яшчэ два дэпутаты, якіх Вярхоўны Савет палічыць патрэбным уключыць у склад прэзідыума. Афіцыйна аб'яўлена пра фарміраванне пяці фракцый: камуністаў, аграрыяў, фракцыі „Згода", сацыял-дэмакратычнай фракцыі „Беларусь" і фракцыі „Грамадзянскае дзеянне". Паколькі толькі тры фракцыі — „Згода", аграрыі і камуністы — адпавядаюць неабходнаму патрабаванню, можна меркаваць, што ў новым прэзідыуме будзе дзевяць чалавек. ВС прыняў рашэнне, што пасяджэнні парламента правамоцныя, калі на іх прысутнічае больш як палова ад агульнай колькасці абраных дэпутатаў. Створана таксама пятнаццаць пастаянных камісій парламента.

### Антысавецкая адміністрацыя

Памочнік старшыні Менскага гарадскога савета Алег Дзенісюк паведаміў, што ў адпаведнасці з указам прэзідэнта н-р 519 ад 26 снежня 1995 г. „Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых саветаў" кіраўніцтва Менскага гарадскога выканаўчага камітэта рыхтуе рашэнне аб скарачэнні ўсіх супрацоўнікаў апарату гарсавета. Мэр беларускай сталіцы Уладзімір Ярмошын раней заявіў, што фінансаванне апарату савета спыняецца з 15 студзеня. Дадзенае рашэнне, па словах Дзенісюка, супярэчыць дзеючаму заканадаўству і даводзіць да фактычнай ліквідацыі ў горадзе прадстаўнічай улады і бескантрольнай дзейнасці гарадской адміністрацыі. Пры гэтым Дзенісюк адзначыў, што згаданы прэзідэнцкі ўказ выконваецца пакуль толькі ў дачыненні да сталічнага гарадскога савета.

### Першая сустрэча

Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі сустрэўся з намеснікам дырэктара Палітычнага дэпартамента Савета Еўропы Жак Луі Ларанам. Была гэта першая афіцыйная сустрэча новага старшыні парламента з замежным прадстаўніком такога ўзроўню. Галоўным пытаннем размовы стала магчымасць уступлення Беларусі ў Савет Еўропы. Як падкрэсліў спадар Ларан, Беларусь выканала першую ўмову — правяла выбары ў парламент, а гэта дае магчымасць сур'ёзна разглядаць заяву Беларусі на ўваходжанне ў СЕ. Старшыня ВС Сямён Шарэцкі адзначыў, што стаць паўнапраўным членам гэтай арганізацыі — адзін з прыярытэтных накірункаў знешняй палітыкі Беларусі.

### Лімітаваная інфармацыя

У беларускай сталіцы ўстаноўлены адзіны дзень інфармацыі грамадзян, які будзе праводзіцца кожную чацвёртую сераду ў калектывах прамысловых прадпрыемстваў, транспарту, сферы абслугоўвання і іншых устаноў і арганізацый. Правядзенне такіх дзён дазволіць палепшыць інфармаванне мянчан аб сацыяльна-эканамічным становішчы ў рэспубліцы і ў горадзе Менску, аб мерах па дасягненні эканамічнай стабільнасці. З інфармацыяй у калектывах будуць выступаць работнікі гарадской адміністрацыі.

### Польская інспекцыя

З 16 па 18 студзеня г.г. у Менску знаходзілася група ваенных інспектараў з Польшчы. Мэтай прыезду групы была ацэнка дакладнасці інфармацыі, якая даецца штогод беларускім бокам аб узброеных сілах і асноўных сістэмах узбраення Беларусі дзяржавам-удзельніцам АБСЕ. У прыватнасці ацэнцы падвяргаўся танкавы полк 120 Мотастралковай дывізіі. Танкісты паказалі гасцям сучасную тэхніку, азнаёмілі іх з бытам і штодзённай працай. Візіт праводзіўся ў адпаведнасці з венскім дакументам „Перагаворы па мерах узмацнення даверу і бяспекі ў Еўропе".

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

- Алег Латышонак размаўляе з дырэктарам Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей Ежым Бісякам.
- Ваяводскі агляд калядНай песні ў Міхалове — рэпартаж Ады Чачугі.
- Адкуль бяруцца бяздомныя сабакі — задумоўваецца Уладзімір Сідарук.

Родным
МАРЫІ
БАЗЫЛЮК-САСНЮК
з прычыны
напаткаўшага Іх гора —
смерці Дачкі, Жонкі і Маці
словы шчырага спачування
выказвае
рэдакцыйны калектыў
„Нівы".

26 студзеня 1996 г. на 38 годзе жыцця
пасля цяжкай працяглай хваробы памерла
МАРЫЯ БАЗЫЛЮК-САСНЮК
настаўніца беларускай мовы
ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім.
Словы шчырага спачування
СЯМ'І НЯБОЖЧЫЦЫ
з прычыны напаткаўшага Іх гора выказваюць
Педагагічная рада і ўсе працаўнікі, члены Бацькоўскага
камітэта і вучні ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

# Ягаднікі — першая вёска ў гміне

Ягаднікі хацелі адлучыцца ад гміны Дубічы-Царкоўныя і прыстаць да Гайнаўкі. У 1992 годзе сарганізавалі нават рэферэндум, у якім жыхары выказаліся за змену гміннай прыналежнасці. Аднак самаўрады былі супраць — вырашыла пазіцыя Гайнаўкі, якая не захацела прымаць яшчэ адну вёску — і засталося па-старому.

— Я не ведаю, добра гэта ці не, — задумоўваецца солтыс Ян Сурэль. — У нас было такое пачуццё, што вёска ўтрымлівае гміну. Гміна атрымлівала за нас розныя ўзнагароды за авечкагадоўлю, набыла вядомасць не толькі ў ваяводстве, але і ў краіне. Колькі мы замежных гасцей прынялі, з Бельгіі, Італіі, кулігі ім арганізавалі. Ну і здавалася, што для таго ўкладу, які мы даем у гміну, замала нам звяртаецца, замала ў нас інвестыцый. Але з другога боку, у Дубічах мы — перадавая вёска, а ў Гайнаўцы больш такіх знайшлося б, а нават лепшыя за нас. А падатак усё роўна трэба плаціць, ці сюды, ці туды.

Палова Ягаднікаў — на хутарах. Солтыс лічыць гаспадароў — добрых, бо ў Ягадніках хто гаспадарыць, дык нядрэнна — і выходзіць якраз па пятнаццаць у самой вёсцы і на „калёніях". Планы рассялення былі гатовыя ўжо ў 1939 годзе, але прыйшлі саветы і ўсё спынілася. Зараз пасля вайны пайшлі людзі ў поле па старых планах.

Зямля ў Ягадніках добрая, трэці і чацвёрты клас. Пяты і шосты толькі дзе-нідзе. Зямля цяжкая, больш адпаведная пад зялёныя ўгоддзі. Гэта і абумоўлівае характар гаспадаркі — гадоўлю.

— У мяне самога на 22 гектары поля, — расказвае солтыс Сурэль, — толькі восем ворнага, а чатырнаццаць гэта пашы і сенажаць. Ё такія, большменш, прапорцы ва ўсіх. Таксама велічыня гаспадарак падобная — каля дваццаці гектараў. Хаця ў нас у пэўны час пачала дамінаваць авечкагадоўля, людзі ніколі да канца не паставіліся на адно. Дзякуючы гэтаму і вытрымалі цяжкі час нашай трансфармацыі. Бо калі няма прыбытку з аднаго, на другім можна ўзяць крыху граша, калі нешта не абродзіць, то штосьці іншае ратуе.

Авечкамі ў Ягадніках пачалі займацца пры Герку, у палове сямідзесятых. Ян Сурэль лічыць, што залатым дзесяцігоддзем для авечкагадоўлі былі гады 1975—85. Увесь час ішло размнажэнне статкаў, гадоўцы вырошчвалі племянную жывёлу. Ад яе быў найбольшы прыбытак. Потым толькі сталі гадаваць мясныя пароды: *сафолькі* і *польскую нізінную* авечку. У дзевяностых гадах пагалоўе авечак знізілася, але статка ніхто не ліквідаваў. Гаспадары чакаюць лепшых часоў.

Ян Сурэль на сваіх 22 гектарах трымае яшчэ сорак матак і некалькі маркачоў. Але ёсць у яго яшчэ каровы — сем дойных і маладняк — свінні. Недалёка, у Пасечніках, герой аднаго майго рэпартажу, Мікалай Васілюк, гадуе коней.

— Коні гэта завялікая інвестыцыя, — кажа Ян Сурэль. — Трэба напачатак уклясці шмат грошай і стараннаў, а калі не ўдасца, то што тады? З жыццём у вёсцы так і ёсць, што трэба самому пабудаваць сабе варштат працы. У горадзе стаў на працу ў нейкую фабрыку і пра нішто галава табе не баліць. А ў вёсцы, каб прыйшлося з нуля пачынаць, то ўсё жыццё пракалоцішся і не скончыш будавацца. Таму і крыўдна, што не роўныя ўмовы жыцця.



*Ян Сурэль — солтыс Ягаднік і радны Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных.*

Лепшыя гаспадары ў Ягадніках гэта *Ян Федарук, Яўген Галашэвіч, Уладзімір Сурэль, Ян Скепка, Васіль Гаўрылюк.* Сам солтыс таксама не з апошніх. Мае тры трактары — чэшскі „Zetor", „Fergusson" і „трыццатку" з Урсуса і патрэбныя да іх машыны.

— Гэта больш для выгады, каб не перачапляць ад аднаго трактара да другога, — кажа ён. — Я сваімі трактарамі мог бы і 150 гектараў абрабіць, каб была такая патрэба.

Апрача функцы солтыса Ян Сурэль выконвае абавязкі раднага Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных. З'яўляецца дэлегатам Ваяводскага самаўрадавага сейміка. Ці столькі грамадскіх абавязкаў не перашкаджае ў гаспадаранні?

— Яшчэ як! Бо і туды трэба ехаць, і туды, а тут якраз работы назбіраецца. Але што ж, калі нечага хочаш дабіцца, то трэба ездзіць, траціць час. Калі чаго не выхадзіш, не будзеш мець, я ўжо гэта дакладна зразумеў.

Для Ягаднік балючая праблема цяпер — дарогі. Асабліва пад'езды на поле. Вядома, зямля цяжкая, шмат цяжкіх машын, дык і хутка дарогі раз'езджваюцца. Рамонту патрабуе дарога са Старога Корніна, па якой, між іншым, ездзяць людзі ў царкву, давозяць дзяцей у школу.

— А што ў Ягадніках чуваць па-за гаспадаркай?

— Летась фэст беларускі ў нас быў, — расказвае солтыс. — Святліца ў нас у добрым месцы, пасярод сяла, спадабалася Сычэўскаму і абяцаў ён, што такія фэсты кожны год у нас будзе арганізаваць. Але ж гэта ад гміны залежыць, калі дасць грошы, будуць фэсты, калі не — дык не. У нашу святліцу і ўкраінцы прывозілі свае калектывы, два дзесьці з Украіны і раз з Дубяжына. У нас людзі хіляцца больш да беларускага, але як нічога не было, то і ўкраінскае крыху блізкае.

**Мікола Ваўранюк**

# Гэй каляда, каляда...

— Чатыры гадзіны працягвалася Раённая сустрэча калядоўшчыкаў „Каляда'96" у нядзелю, 14 студзеня ў Доме культуры ў Гайнаўцы, — паінфармавала намеснік дырэктара таго ж дома Галіна Вайсковіч. — Паглядзець і паслухаць можна было хоры, калектывы, салістаў, а таксама дуэты і квартэт. Ё так, мерапрыемства пачалося ад выступлення маладзёжнага калектыву „Чарамшына" з Чаромхі. Пасля выступілі фальклорныя мастацкія калектывы: „Чыжавяне" з Чыжоў, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Арэшкі" з Арэшкава ды ўпершыню калектыў са Збуча.

Добра зарэкамендавалі сябе школьныя калектывы з Гайнаўкі (з ПШ н-р 1 і ПШ н-р 6), з Кленік, Чыжоў і Нараўкі. Выступілі яшчэ вакальны ансамбль Гайнаўскага дома культуры, тэатральна-музычны калектыў ГДК, калектыў „Голконда" з Кляшчэляў ды квартэт з Нараўкі. Усе выступленні былі загадзя добра падрыхтаваныя і ўсе прайшлі паспяхова. Між іншым на вылучэнне заслужыў нараўчанскі квартэт.

Цікавым было выступленне Эвы Паўловіч і Дзям'яна Чарнэцкага, якія напісалі тэкст і музыку калядак ды прыгожа і цікава іх выканалі.

Варта адзначыць, што ГДК арганізоўвае сустрэчы калядоўшчыкаў ужо не першы раз і ўсе гэтыя мерапрыемствы карыстаюцца вялікай папулярнасцю — глядзельная зала запоўнена была да апошняга месца. Сёлета найбольш калядоўшчыкаў прыехала з Чыжоўскай гміны.

**Янка Целушэцкі**

# Яшчэ не позна

Зіма ў гэтым годзе паскупіла нам сваіх атракцыёнаў. Снегу мала. Дзецюкам няма з чаго ляпіць балваноў, а дарослым нельга паехаць санямі на Масленіцу. Затое мукаў маем удосталь.

Хаця прайшла ўжо палова зімы, праблема галалёдзіцы не губляе сваю актуальнасць. Колькі ж дарожных аварый здарылася ў гэтым годзе з-за галалёду? Пацярпелі людзі, паламаліся сотні аўтамабіляў і ўсё гэта з-за людской легкадумнасці. Занядбанне правіл дарожнага руху шафёрамі і пешаходамі, а неаднойчы несумленнасць некаторых чыноўнікаў гмінных самаўрадаў ці дарожных устаноў, якія абавязкава ставяцца да сваіх службовых абавязкаў, дае, як бачна, адмоўныя вынікі.

Гляньма на стан дарог і вуліц у зімнюю пару. Вядома, што па закону публічныя дарогі і вуліцы павінны быць пасыпаныя пяском у час галалёдзіцы. А як справа маецца ў сапраўднасці, можам праверыць на прыкладзе Чаромхі. Тут гміна задбала пра дарожную бяспеку і выкарыстала беспрацоўных, у рамках інтэрвенцыйных работ, для пасыпання вуліц. Праўда, цэнтральныя вуліцы пасёлка пасыпалі акуратна, але трапляліся такія месцы, што шыю скруціць было можна. Нават цяпер, 17 студзеня, калі пішу гэтую інфармацыю, на асфальтавай дарозе ад цэнтральнага чыгуначнага пераезда ў напрамку станцыі, паравознага дэпо і Кузавы небяспечна так, хто едзе на веласіпедзе, мапедзе ці нават ідзе пешшу.

Хто павінен тады задбаць, каб дарога была бяспечная — гміна ці чыгунка?

Хачу яшчэ дадаць, што справа не лепш маецца і ў нашых вёсках. Страшна там на вуліцу выйсці, такі голы лёд! А закон выразна гаворыць, што гаспадар павінен трымаць парадак на вуліцы перад сваёй сядзібай: летам прыбіраць яе, а зімой — адкідаць снег і пасыпваць пяском дарожнае палатно.

Відаць, мода на законы даўно пакінула і гмінныя ўлады, і грамадзян. Хачу прыпомніць усім: выконвайма нашы абавязкі! Яшчэ ў лютым або сакавіку можна будзе скруціць шыю на абледзянелых, ухабістых дарогах. А гэтага ніхто з нас напэўна не жадае!

**Уладзімір Сідарук**

## Абеды для школьнікаў

У Пачатковую школу ў Семяноўцы (Нараўчанская гміна) ходзіць 85 дзяцей і ў прадшкольным аддзеле займаецца дзевяць дзетак. Усе яны з Семяноўкі, Тарнопаля, Баб'яй-Гары, Пасек, Семенякоўшчыны, Людвінова, Смольніцы, Прэнтаў. Вучняў са Смольніцы і Тарнопаля возяць на мікрааўтобусе „Ныса", а дзеці з Пасек, Баб'яй-Гары і з Асовага даязджаюць на аўтобусе ПКС.

У школе гатуюць абеды для ўсіх школьнікаў і дашкольнікаў. З гэтай мэтай у 1992 годзе аддалі ў карыстанне прыгожую прасторную сталовую. Абеды варыць Ірэна Мацкевіч, дапамагае ёй інтэндантка Крыстына Вараніецкая. Некаторыя вучні дачакацца не могуць, калі ўжо пачнуць выдаваць смачную ежу. Дырэктар школы Уладзіслаў Кічка клапоціцца, каб харчаванне не спынілася. Як яно важнае, не трэба нікога пераконваць.

Пасля падсілкавання юнакі ахвотна наведваюць фізкультурны зал. Хаця ён невялікі — плошча яго 60 квадратных метраў — але ўсё ж ёсць. Зараз у зімовыя дні заняткі адбываюцца ў цёплым памяшканні.

Варта адзначыць, што таксама смачныя абеды для вучняў гатуюць у пачатковых школах у Старым Ляўкове (харчаванне ў ляўкоўскай школе вядзецца чатырнаццаць год, з тае пары, калі закончылася яе разбудова) і ў Нараўцы.

(ЯЦ)

## Падлічылі зуброў

— У бягучым годзе нам даволі хутка ўдалося падлічыць статак зуброў, што жыве ў польскай частцы Белавежскай пушчы, — кажа мне кіраўнік тутэйшага Асяродка зубраводства БНП інж. Георгі Дацкевіч. — Паспрыяла добрае надвор'е і не надта тоўстае снежнае покрыва.

Белавежскія зубраводы далічыліся ўсяго 322 асобін, у гэтым ліку 119 самцоў і 203 самак. 289 зуброў (111 самцоў і 178 самак) жывуць на свабодзе, апошніх 33 (8 самцоў і 25 самак) трымаюць у зачыненых зубрагадавальніках.

У 1995 г. на свет прыйшлі разам 53 зубраняты (45 на свабодзе і 8 у зубрагадавальніках). Страты зубрынага статка склалі 40 асобін. Адно звышаднагадовае зубраня было завезена ў лодзінскі заапарк. У Белавежу ў сваю чаргу трапіў адзін зубр з Волінскага нацыянальнага парку.

Зараз Белавежскі нацыянальны парк вядзе размовы з ахвотнымі купіць 5 зуброў у Данію. Адну асобіну хочуць набыць латышы. Магчыма, што адзін зубр паедзе ў Аўстралію.

**Пётр Байко**

## Грамадская апека ў гміне

У мінулым годзе ў Нараўчанскай гміне пастаянную грашовую дапамогу (засілак) атрымоўвалі 30 чалавек (ім выплацілі 495 мільёнаў старых злотаў). Перыядычныя „засілкі" атрымалі 126 сем'яў — для іх выплацілі амаль 450 мільёнаў ст. злотаў (у 1994 годзе з такіх жа „засілкаў" скарыстала 241 сям'я).

Фінансавую дапамогу далі пагарэльцам (было два пажары), на чатыры пахаванні, на пакупку апалу для 9 сем'яў, а таксама на пакупку абутку, харчовых прадуктаў і лякарстваў для абяднелых сем'яў. Вопратку атрымала 150 дзяцей і дарослых.

У 1995 годзе Гмінны асяродак грамадскай дапамогі разгледзеў 486 прашэнняў (у 1994 годзе такіх спраў было зарэгістраваных 399) аб матэрыяльнай дапамозе.

(ЯЦ)

## Хто пацікавіцца?

Непадалёку перонаў чыгуначнай станцыі ў Чаромсе стаіць прыбіральня. Калісьці была яна патрэбная рабочым, якія працавалі ў старым бараку, а таксама пагранічнікам, стрэлачнікам і рамонтнікам. Ужо сёмы год пайшоў, як барак разабралі, але прыбіральня засталася. Цяпер яна таксама патрэбная, але зайсці туды проста сорамна. Станам прыбіральні раю пацікавіцца начальніку Чаромхаўскай станцыі або кіраўніку фірмы „Цэнтрум-паслуга" з Седльцаў, якая прыбірае прывакзальную плошчу. А калі гэтым чыноўнікам цяжка будзе разабрацца ў тым, хто павінен сачыць за парадкам у прыбіральні, мо тады Санэпід дапаможа. На маю думку, такія „унікумы" ў публічным месцы не робяць гонару жыхарам Чаромхі.

(ус)

## Сумная гадавіна

*Мінае 50 гадоў ад часу трагедыі, якую перажылі беларускія жыхары вёсак Залешаны, Зані, Шпакі, Вулька-Выганоўская, Канцавізна. 29 студзеня 1946 г. атрад Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Ромуальд Райс — „Буры", акружыў вёску Залешаны, пачынаючы ад яе свой крывавы шлях па Беластоцкай зямлі. 2 лютага гэтыя самыя салдаты падпольнага войска вымардавалі беларускіх жыхароў Заняў і Шпакоў, 3 лютага спалілі Вульку-Выганоўскую і Канцавізну. Гэты кашмарны рэйд закончылі ў Пухалах-Старых забойствам 29 беларускіх вазакоў, якіх узялі ў палон каля Гайнаўкі.*

*Сёння ўжо вядома, кім былі забойцы і іх ахвяры, вядома таксама, як гэта ўсё адбывалася. Ніхто аднак не адказаў чаму, за якую віну пацярпелі невінаватыя людзі, па якіх прычынах польскае падпольнае войска забівала жанчын, дзяцей, старэчаў. Ніякае тлумачэнне пра класавую барацьбу, як гаварылі адны, ні пра змаганне з камунізмам, як цяпер гавораць другія, не дае адказу на пытанні: чаму?, за што?, адкуль такое зверства?, дзе былі карані таго злачынства? Ніхто з беларусаў не дамагаўся і не дамагаецца адказу на гэтыя пытанні, не з'явілася ніякая глыбейшая рэфлексія як аналіз псіхалагічных паслядоўнасцяў пасляваеннага нацыяналістычнага шаленства. Ніхто не адважыцца сказаць асноўнай праўды, што ўжо пяцьдзесят гадоў грамадства жыве ў цяні страху, засеяным у 1945—1947 гадах. Сёння адны цынічна выкарыстоўваюць гэты страх, другія крывадушна апраўдваюць злачынцаў. Толькі бацькі і дзеці памардаваных, у адзіноцтве, з неакрэсленым болем у грудзях, як штогод, запаляць свечкі за душы сваіх блізкіх.*

рэд.



*Крыж у Пухалах-Старых, пастаўлены сем'ямі памардаваных вазакоў.*
**Фота Г. Кандрацюк**

*Віктар Ярмалковіч*

## На хвалях жыцця

*(працяг; пачатак у 41 н-ры за 1995 г.)*

### За што?

Як да ўсяго гэтага дайшло? Склалася на гэта многа прычын.

Арганізаваліся калгасы. Сяляне ў Старым Сяле ў калгас тады не пайшлі. У школе сторажамі працавалі Казлоўскі і Масевіч, у якіх была свая зямля. Раённыя ўпаўнаважаныя запланавалі пачаць калектывізацыю менавіта з іх. Уладзіць справу са сторажамі загадалі мне. Я пагаварыў з адным, потым з другім, але яны пра калгас нават думаць не хацелі. Што ж тады мог я зрабіць? Нічога. Так і перадаў я райупаўнаважанаму, што абодва не хочуць паступіць у калгас. Тады сталі патрабаваць ад мяне звольніць іх з работы. „Добра, — сказаў я, — але дайце мне гэты загад на пісьме". Яны не згадзіліся даць мне пісульку, а я не згадзіўся звольніць сторажаў. Так і пачаўся разлад паміж мною і раённымі ўпаўнаважанымі.

Усё раённае начальства, якое прыязджала ў вёску, у першую чаргу заходзіла ў школу. Калі ты іх добра прыняў, накарміў і напаіў — усё было добра, але калі не змог так зрабіць — пачыналася бяда. А на настаўнікаў у гэты перыяд адміністрацыя накладала многія дадатковыя абавязкі. Настаўнікаў выкарыстоўвалі і пры арганізаванні калгасаў, і пры падрыхтоўцы выбараў, і пры агітацыйнай рабоце, і пры прагандаванні унутранай дзяржаўнай пазыкі, і пры многіх іншых акцыях. Дакучалі нам гэтыя райупаўнаважаныя і мяшалі ў рабоце. Найважнейшым выдаваў нейкі Грыцай, з твараў у воспінах, украінец па нацыянальнасці. Ведаў я, што гэта п'яніца. Прыйшоў ён вось аднойчы да мяне ў школу і адразу пачаў прад'яўляць нейкія прэтэнзіі. Для мяне стала ясна: бойся яго і дагаджай. Каб прыйшоў ён і пачаў адносіцца па-чалавечы, дык прыняў бы яго, але калі стаў кідацца як сабака, не хацеў я з ім гаварыць, не пачаставаў і не напаіў. Хадзіў ён тады па вёсцы і збіраў матэрыялы аб школе. Мераў настаўніцкія ўчасткі, каб праверыць, ці не замнога ў іх зямлі. Не падабалася яму, што я трымаў пчол, што вучні ходзяць у касцёл. Каб адчапіцца ад яго, замест напаіць (баяўся, што на адным разе не скончыцца, а піць я не люблю), напісаў я скаргу ў раённую ўправу. Пасля гэтага Грыцая, праўду кажучы, „выспавядалі" і адхілілі ад школы, але ён пачаў супраць мяне настаўляць МГБ. Пачаліся ягоныя частыя выпіўкі ў настаўніка Мацейкі. Гаспадар, у якога жыла сям'я Мацейкаў, перасцерагаў мяне перад сваім кватарантам. Я таксама меў свой погляд на асобу Мацейкі, і дапамог мне ў гэтым ягоны расказ.

Мацейка быў родам дзесьці з-пад Маладзечна. Безумоўна, па прозвішчы і па паходжанні ён быў беларусам. Кім ён падаваўся пры Польшчы, таго не ведаю. Беларусам пісаўся, калі Заходняя Беларусь апынулася ў складзе Савецкага Саюза. Жонку, карэнную польку з-пад Кельцаў, так тады навучыў гаварыць па-беларуску, што па мове ніхто не пазнаў бы, што яна полька. Зрэшты, калі скапітулявала Польшча, яна таксама запісалася беларускай. Дома тады ўсе гаварылі па-беларуску.

Але вось ягоны расказ. Перад вайной, калі адбываліся выбары ў польскі сейм, у тую мясцовасць, дзе ён працаваў, прыехаў прадстаўнік нейкай беларускай партыі правесці мітынг. У змове з камендантам польскай паліцыі Мацейка яго так напаіў, што той мітынгу не правёў і паехаў з нічым. Гэтым сваім „подзвігам" падвыпіўшы Мацейка хваліўся мне. Відаць, хацеў такім чынам паказаць свой спрыт. А ў мяне ўмацавалася перакананне, што калі быў ён на паслугах паліцыі, значыць — прадажная душа.

Усё-такі ў той час, калі я быў дырэктарам школы, жылі мы з Мацейкамі добра, бывалі адны ў другіх. Не было між намі непаразуменняў. Непакоілі мяне аднак частыя выпіўкі Грыцая ў іх. Меркаваў я, што нешта нядобрае яны задумоўваюць.

Быў нейкі час, што хлопцаў не прызывалі ў войска. Праўдай было, што нехта спецыяльна распускаў чуткі, што ў войска не бяруць палякаў, а толькі беларусаў і іншыя нацыянальнасці. У такой сітуацыі ўсе жыхары вёскі запісаліся палякамі. Але вось у час майго дырэктарства юнакоў сталі прызываць у армію. У Старым Сяле прызыўнікі сталі хавацца. Раённае начальства прыйшло да вываду, што нехта арганізуе мясцовае насельніцтва да супраціўлення. У вёсцы толькі я адзін меў вышэйшую адукацыю і на мяне ўпала падазрэнне.

Пачаткам праследу паслужыў усё-такі данос з акаўскага лагера са Шчучына. Данёс на мяне настаўнік Качаноўскі, які ў той час прыехаў са Шчучына ў Нававілейскі раён арганізаваць польскія школы. Мгбісты ані словам не ўспомнілі аб ім падчас следства, але аб даносе расказалі мне пазней работнікі раённага аддзела народнай асветы ў Вілейцы. Па даносе Качаноўскага абвінавацілі мяне ў тым, што я супрацоўнічаў з немцамі ў часе акупацыі. У сапраўднасці я працаваў у краёвых установах, а сам Качаноўскі працаваў непасрэдна ў немцаў, у нейкай гаспадарчай арганізацыі, якая наглядала за працай млыноў. У той галодны час было гэта надта выгаднае месца. Сам ён мне аб гэтым хваліўся. Яго не абвінавацілі, а мне сталі даказваць віну. Чаму..?

*(працяг будзе)*

## Палітычнасць і мы

26 лютага г.г. мінае 40 гадоў з дня ўстаноўчага з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы — дастойны гэта юбілей Беларускага таварыства, але і наогул беларускага грамадскага руху на Беласточчыне. Наша рэдакцыя вырашыла правесці інтэрв'ю са старшынёю Галоўнага праўлення БГКТ Янам Сычэўскім. Яго правядзенне даручана было мне. Падрыхтаваў я і прадставіў старшыні Галоўнага праўлення БГКТ наступныя пытанні.

*1. 40-годдзе Беларускага таварыства гэта нагода для юбілею, але і час на сур'ёзны падрахунак дзейнасці. Большая частка гісторыі Таварыства звязаная з эпохай сацыялізму ў Польшчы. Як Вы сёння ацанілі б гэты час — ці мела Таварыства свабоду дзеяння, ці можа ўлада ў большай ступені тармазіла яго дзеля сваіх інтарэсаў?*

*2. Як, паводле Вас, на сітуацыю Таварыства паўплывала змена мецэната ў пачатку 90-х гадоў?*

*3. Як Вы сёння ставіцеся да факту, што Таварыства, якое ўзнікла пры падтрымцы палітычных і адміністрацыйных улад краіны, не атрымала ад гэтых улад рэальных (адміністрацыйных) сродкаў уплыву на беларускае школьніцтва? Як Вы ацэньваеце грамадскую працу Таварыства, накіраваную на падтрымку гэтаму школьніцтву?*

*4. Беларускія фэсты арганізаваліся Таварыствам на працягу ўсёй яго гісторыі. Ці роля фэсту сёння і некалькі дзесяткаў гадоў таму назад такая самая?*

*5. Як Вы ацэньваеце сённяшнюю сітуацыю Беларускага таварыства?*

*6. Як Вы ставіцеся да вестак прэсы, паводле якіх прэзідэнт Беластока хоча перадаць будынак Таварыства для ваяводы з мэтай стварэння цэнтра беларускай культуры?*

Ян Сычэўскі згадзіўся адказаць на іх, але праз некалькі дзён, калі прыйшоў дамоўлены тэрмін інтэрв'ю, старшыня Таварыства раздумаўся. У апраўданне гэтай змены Я. Сычэўскі сцвердзіў, што **Беларускае таварыства з'яўляецца грамадскай арганізацыяй, а ў агульным вобразе прапанаванага мною інтэрв'ю пераважае палітычны элемент.**

Я не пярэчу, што частка маіх пытанняў (а хай сабе і ўсе) мае свой палітычны кантэкст. Кантэкст гэты аднак з'яўляецца неад'емнай часткай гісторыі беларускага руху ў Польшчы, а не вынікам маёй злой ці добрай волі. Лічу, што нельга сур'ёзна гутарыць пра той ці іншы грамадскі рух у адарванасці ад абставін, у якіх ён нараджаецца і дзейнічае.

*ПАЛІТЫЧНАСЦЬ* адціснула асаблівае кляймо на нашым беларускім лёсе, бо, не сакрэт, былі і такія моманты ў гісторыі, што размова на беларускай мове лічылася ў нас палітычным актам. Цяпер аднак жывем у свабоднай дзяржаве, у якой не павінна быць перашкод выказваць свае думкі і погляды. Што вартая гэтая свабода, калі ізноў нейкая *палітычнасць і сакрэтныя ейныя інтарэс* прымушае задумацца: гаварыць, не гаварыць, а можа перш запытацца пра згоду?

**Аляксандр Максімюк**

## Арол без пер'я

На працягу апошніх гадоў шмат змянілася ў адносінах паміж палякамі і беларусамі, але не ўсё як павінна быць. Уфалюцкамі (зялёнае з антэнкай на чубе) мы перасталі быць — нас заўважылі і добра прygлянуліся, але яшчэ не палюбілі. Але як жа нас маюць яны любіць, калі саміх сябе мы не любім — саромеемся сваёй культуры і роднай мовы. Многа з нас перайшло ў каталіцтва ды схапілася за польскую культуру, не дацэньваючы багацця беларускай культуры. Гэтыя людзі сталіся арламі без пер'я. А хто ж сказаў, што беларуская культура горшая? Перад усім мы самі. Палякі не ведаюць нашай культуры, бо мы самі яе саромеемся ды лічым горшай.

Хачу я расказаць пра адно здарэнне, у якім давялося мне ўдзельнічаць. Было гэта ў жніўні 1989 г., у той час, як Мазавецкі стаў прэм'ерам. Паехаў я тады на лагер на аўгустоўскіх азёрах. Там апынулася шмат студэнтаў з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Атмасфера была вельмі прыемная — удзень мы купаліся ў возеры, каталіся на байдарках і парусных лодках. Адпачывалі. Вечарамі свой час мы праводзілі ля вогнішчаў, дзе пілі піва, ігралі на гітарах і спявалі. А спявалі то мы даволі голасна, бо прыходзілі да нас людзі з іншых лагераў. Аднаго вечара былі з намі дзве іспанкі, якія спявалі фламенка. Я рашыў, што беларусы не горшыя і заспяваў некалькі песень па-беларуску — „Касіў Ясь канюшыну", „Лебяда", „У панядзелак раніцай", „Два дубочкі". Не ўмею я спяваць найлепш, але адважыўся. Вынік быў такі, што мусіў я навучыць усіх гэтых песень. Наступныя ночы праходзілі нам на спяванні ўсякіх песень — і польскіх, і беларускіх. Гэтых пару беларускіх песень стала гітам нашага лагера. У далейшым правёў я некалькі дыскусій на тэму беларусаў, у час якіх аказалася, што палякі пра іх нічога не ведаюць. Я адкрыў перад імі маленькую частку беларускай культуры. Польскія студэнты былі ёю вельмі зацікаўлены ды не скажу, каб трактавалі мяне самога як нешта горшае. А колькі з нас пасаромелася б прызнацца ў беларускім паходжанні? Гэта не палякі прызнаюць нас горшымі, але мы самі, бо паддаемся паланізацыі. А паляк беларускага паходжання заўжды будзе нібы арол без пер'я.

**Ян Дрозд**

## Святочныя пажаданні

Упершыню жыхары Ольштына пачулі ў сваіх радыёпрыёмніках беларускі голас. На праваслаўныя Каляды па радыё WA-MA прагучала „Ціхая ноч" у выкананні кафедральнага дзіцячага хору пад кіраўніцтвам Алы Дубец, а я, па-беларуску, усім слухачам радыё WA-MA перадаў святочныя пажаданні з нагоды Каляд і Новага года. Пасля ў эфір паплылі песні ў выкананні гурту „Ас" — „Едуць гарадскія" і іншыя.

**Андрэй Гаўрылюк**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 433*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*Свет паэткі Надзеі Артымовіч дасягнуў тае цуднай сваім жыццёсцвярджэннем вышыні, калі людзі зазвычай сьвяткуюць першы круглы юбілей. У такую сталасць гадоў адбываецца гармонія паміж парывамі душы і светаразуменнем. Таленавітай асобе надыходзіць тады боскі час стварання. Дзеля гэткай жыццёвай цалкавітасці чалавек нараджаецца і доўга спее.*

*Віншуем Цябе, Надзя, з радасным Юбілеем!*

*Тэрэса Занеўская*

## ВЯЛІКАЯ БРАМА

У Беларускім літаратурным аб'яднанні „Белавежа", якое літаратары-беларусы заснавалі ў Польшчы трыццаць сем гадоў таму, Надзея Артымовіч — адна з самых цікавых творчых постацей. Польская крытыка ставіць паэтку і яе творы ў кантэкст такіх літаратурных з'яў, як Анджэй Бабінскі, Анджэй Бурса, Рышард Мільчэўскі-Бруно, Эдвард Стахура, Рафал Воячэк, — у кола „poetes maudits", „паэтаў выклятых", ці, як гаворыцца пра іх сёння ў Польшчы, — „каскадзёраў літаратуры". Можа, такое сваяцтва не зусім абгрунтаванае, бо цяжка лічыць Надзею Артымовіч паэткай, якая паўстала супраць абавязковых звычаяў ці ўступае ў канфлікт з маральнасцю, але мае яна ў сабе нешта сугучнае з душой артыстычнага цыгана, а творчасць яе пераконвае, што кожны вялікі твор нарадзіцца можа толькі з той глебы жыцця, якая насычана болем і трываннем. Без сумнення падтрымлівае Надзея Артымовіч ідэю „чалавека бунтоўнага", якая належыць Альберу Камю, які, падсумоўваючы магутны абсяг сучаснай еўрапейскай думкі, сцвердзіў, што „чалавек ёсць адзіная істота, якая не згаджаецца быць тым, чым яна ёсць" (А. Камю, „Чалавек бунтоўны").

Дэбютавала дваццаць пяць гадоў таму надзвычай спелым і ўзвышаным вершам „Ой, ляцелі гусі". Чвэрцьвечча творчай біяграфіі паэткі пазначылі чарговыя зборнікі вершаў: „У сне, у болю слова", Беласток, 1979; „Роздумы", Беласток, 1981; „Сезон у белых пейзажах", Беласток, 1990; „З неспакойных дарог", Мінск, 1993. Апошнім часам гэты даробак быў узбагачаны кніжкай двух аўтараў „Дзверы", якая з'явілася ў Бібліятэчцы беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", рэдагаванай (ад 1990 года) паэтам Янам Чыквіным. Гэта — выбар вершаў Надзеі Артымовіч разам з інтэрпрэтацыямі Алеся Разанава — празаічным, поўным прыгажосці і глыбіні каментарыем да паасобных тэкстаў Надзеі Артымовіч. „Дзверы" — кніжка нязвыклая і смелая, таму што на старонках аднаго выдання сустрэліся дзве творчыя індывідуальнасці. Гэты паэтычны двуголас, аднак, гучыць згодна, узаемна ўзбагачаючыся ў сітуацыі спаткання і дыялогу вакол універсальных вартасцей. Задума і канцэпцыя кніжкі прыгадвае адзін з апошніх твораў Чэслава Мілаша „Выпісы з карысных кніг", які атрымаў прызнанне і зацікаўленасць крытыкі.

„Дзверы" з'явіліся ў дні дваццаціпяцігадовага юбілею творчай працы Надзеі Артымовіч, і ў гэтым кантэксце назва збору набывае значэнне сімвалічнае. Вобраз дзвярэй як „брамы, варот" паўстае суцэльна закарэненым у сімволіцы міжземнаморскай культуры; зазначае сваю прысутнасць у помніках перамогі, што набываюць кшталт трыумфальных брам, аздобленых рэльефамі, якія ўвасабляюць паасобныя фазы здабытай перамогі. Вершы Надзеі Артымовіч, прадстаўленыя ў томіку „Дзверы" ў храналагічным парадку, з'яўляюцца менавіта такімі рэльефамі, што аздабляюць чарговыя этапы перамогі аўтаркі над паэтычнай матэрыяй. Вершы, што сабраны ў томіку, — арытмічныя, дысгарманічныя, ашчадныя ў словах і поўныя замоўчванняў, вырастаюць з болю і сну, з горычы дасведчання, з нясмелых надзей, знікомых мараў, якія занадта багатыя і недаступныя.

У народнай культуры таксама жыве звычай пастановы брам з зеляніны і кветак у гонар кагосьці, каго хочуць годна і радасна прывітаць. Паэтычныя каментарыі Алеся Разанава, якія ён зрабіў да вершаў Надзеі Артымовіч, можна параўнаць якраз з уквечанай брамай, узведзенай на срэбны юбілей творчасці паэткі.

Тытульныя дзверы набываюць таксама сімвалічнае значэнне ў вершах Надзеі Артымовіч. Выказваюць запрашэнне да пераходу праз парог, з'яўляюцца сімвалам мяжы паміж сферай сакральнай і свецкай, паміж святлом і цемрай, штодзённасцю і вечнай Таямніцай. З'яўляюцца пачаткам і канцом, але перад гераіняй вершы Надзеі Артымовіч найчасцей замыкаюцца. Гэта — „апошнія", „жалезныя дзверы", што зачыняюць „дарогу да чалавека". Азначаюць брак надзеі на выратаванне. Гэтыя дзверы зачыняюць у нас штодзень, шчыльна ізалююць нас ад навакольнага свету, робячы немагчымым спасцiжэнне спраў чалавечых.

„Дзверы" — хвалюючы і ўзрушальны паэтычны аповяд пра адзіноцтва, пра заблытаную экзістэнцыю, пра бачанне свету як вузла супярэчнасцей. Паэтка ставіць дыягназ чалавеку, які жыве пры канцы веку, паказваючы, што неабходна лячыць яго розум, душу і сэрца. Апеляе да безумоўнай адкрытасці да чалавека, бо ўжо хутка — у крохкасці нашага бытавання — чакае нас „вялікая брама" ў краіне вечнай цішы.

Паэтка кажа — „свет замкнуўся і маўчыць". Выступае з „нескончаным маналогам", „з небяспечнай хуткасцю" шукае „опіум для хворых душ там, дзе няма сэрцаў", чакае „на небяспечных берагах", ідзе „па слізкіх дарогах", але чалавек — „быццам камень", а „сэрца механічнае". Няма ў гэтых строфах шчасця, ёсць аўра няспраўджання чалавека ў яго чалавечай місіі. Ёсць гераічныя спробы, бясплённыя памкненні, страта найлепшых каштоўнасцей, ёсць хворыя, разбураныя дамы і паэтка, якая сніць свае сны пра сэнс, у якім адмаўляе ёй ява, пра надзею па-над усялякай надзеяй.

Сімвалам чалавека канца веку паўстае ў паэзіі Надзеі Артымовіч стомлены пілігрым, што нястомна вандруе, змораны і не знаходзячы ні ў чым апошняга апірышча: „Квадратнае неба над мною", — кажа гераіня гэтых вершаў, імкнучыся ахапіць веліч прасторы, у якой разгортваецца лёс чалавека. Гэтае маўклівае, прыгожае неба вынікае з традыцыі Паскаля, паказваючы чалавеку яго вымярэнне — экзістэнцыяльную канцовасць. Перажыванне страху перад бясконцай прасторай космасу ўзмацняюць зоркі, воблакі, неба, якія паўстаюць сведкамі чалавечага лёсу і якія заўсёды з'яўляюцца ў паэзіі Надзеі Артымовіч у атмасферы метафізічнага страху. Тварам у твар са знакамі бясконцасці гераіня вершаў перажывае жахлівасць і адначасова дасягае найвышэйшай, ажно балеснай інтэнсіўнасці жыцця. Але ўнутранае спусташэнне, скажэнне маральнае, згасанне пачуццяў робіць яе няздольнай ні да перажывання прыгожай прыроды, ні да прыгожай любові. Спрабуе, аднак, нястомна даследаваць таямніцу жыцця, шукае ў творы выразу для невымоўнага, імкнецца да пазнання і зразумення, не дасягаючы іх канчаткова, але знаходзячы сэнс ва ўпартым імкненні і вечным шуканні. Вяртаецца да месца, якое знаходзіць.

Прастора і месца — асноўныя складнікі нашага свету. Прастора дае чалавеку пачуццё свабоды, адкрывае перад ім перспектыву, заахвочваючы да дзеяння. Месца забяспечвае бяспеку. Прастора замкнёная і ачалавечаная робіцца месцам — непарушным цэнтрам усталяваных, засвоеных каштоўнасцей. Месцаў нельга пакінуць — яны застаюцца. „Месцы застаюцца і ідуць разам з намі", — кажа паэтка. „Месца з'яўляецца пастаянным, — піша амерыканскі географ Ві Фу Цюян, — таму дае чалавеку, які сам пачуваецца слабым і асуджаны на перамены і змены лёсу, — пачуццё ўпэўненасці". Месца паўстае скарбонкай успамінаў, крыніцай унутранай сілы, адкуль гераіня вершаў Надзеі Артымовіч чэрпае натхненне для штодзённасці. Гэтае месца — Бельск, які паўстае поруч з такімі атрыбутамі, як ікона, малітва, музыка, і таму ўспрымаецца ў катэгорыях святасці. Канцэпцыя месца надае роднаму гораду найвышэйшую вартасць. Нельга яго пакінуць, бо калі б яго не стала, гераіня страціла б пачуццё ўсялякага сэнсу і кропку сталага апірышча. Менавіта з Бельскам звязана надзея, перададзеная ў паэтычных строфах Артымовіч сімвалічнымі вобразамі: усходамі сонца альбо матывам зялёнага каня каля вадапою, што з'яўляецца ўвасабленнем вытоку, сіл прыродных і памкненняў душы чалавечай. Гэта надзея на дабро, зычлівасць, любоў, на добрыя думкі, але найперш — на тое, што адчыняцца ў нас „дзверы", што мы пераступім парог цемры і „будзем кідаць хлеб свой на воды плывучыя", не засмучаючыся тым, што ён адплывае ў нязнанае і гіне.

„Дзверы" прадстаўляюць творчасць Надзеі Артымовіч у яе найлепшых дасягненнях і ў арыгінальным выглядзе, што надае гэтай кніжцы каментарый Алеся Разанава, які з'яўляецца версіяй прачытання нялёгкай для ўспрымання паэзіі. Гэта не адзіна магчымая інтэрпрэтацыя творчасці паэткі, а, хутчэй, форма запрашэння больш шырокага кола чытачоў да распачатку дыскусіі над праблемамі чалавечага існавання, сутнасцю прыроды чалавека і яго прызначэннем — тэмамі, увесь час прысутнымі ў паэзіі Надзеі Артымовіч.

Увагі таксама заслугоўвае мастацкае афармленне кніжкі. Адцянёная вокладка ад цьмянасці да яснасці пераклікаецца з назвай зборніка і зместам вершаў, прыпадабняючыся да адкрыцця дзвярэй — у нас, каля нас і ў вечнасць.

*(„Літаратура і мастацтва", Мінск, 23.VI.1995)*

*Алесь Чобат*

## БЕЛАЯ РУЖА

Белая ружа стаіць у зялёным шкле.  
Голая ружа дрыжыць на чорным  
сталє.  
Белая ружа ў шкле зялёным стаіць.  
Голая ружа на чорным стале звініць.

Звон зялёны пасыпаўся са стала.  
Смех жанчыны загарэўся ярчэй  
святла.  
Жоўтая свечка побач з ружаю зззе.  
Побач са свечкай жанчына мая спявае

цёплым і светлым, як свечка,  
голасам з-пад грудзей...  
Гэта зімы канец. І пачатак надзей.

А голая белая ружа  
глядзіць  
праз зялёнае шкло...

*Зьніч*

* * *

... імчыцца крылаты конь ...  
шчыруюць, бы пчолы, ўспаміны ...  
маланкай мядовы агонь  
хаваецца ў хмаркі сябрыны ...

... праменіцца сонца ў расе ...  
між веяў лаўлю летуценьні ...  
цалую траву на каленях ...  
плыву — у пяшчоце й красе ...

### КАХАНЬНЮ

... не паўтарай  
панылых песень сьвету ...  
ня кліч на ложак,  
што стварыў Пракруст ...  
Гасподзь злучыў  
лагоду й землятрус ...  
пазначыў шлях ...  
і вобразы ...  
і мэту ...

### МРОЯ

... маркотнай ноччу, сьцішана,  
нібы ў чароўным сьне,  
княжна Алена Мышкіна  
прыходзіць да мяне ...

... маўчаньнем, быццам золатам  
зь нябёснай цішыні,  
варожыць: „Зорным холадам  
ахоўвай душ агні..."

... і гоюць словы існыя:  
„... зьнямогласьць — не канец ...  
у ёй — сузор'і — Ісьціна  
запальвае,  
Стралец ..."

*(З цыкла „Бывай, Heroica")*

*Міхась Шаховіч*

* * *

Шкада  
Не паеду я ў Сахачэў  
Не буду лічыць  
Прыпынкаў  
Ад Блоні  
Там  
Такая раўніна  
Проста  
Як на далоні  
Не буду ў Пясочніцы  
Я рыхтавацца  
Каб  
Першым саскокнуць  
І бегчы перонам  
У абдымках кружыцца  
Я  
Поўнасцю спалены  
Як  
Рома Неронам  
Толькі  
Крык самажалю  
І  
Сковыт хістанняў  
Ляцяць  
Горкім рэхам  
Мне  
На спатканне  
Не паеду ў Сахачэў  
Пусты і мрочны  
Ніхто не вітае  
Ніхто не чакае  
Ганю ўспаміны  
І ў кожнай мясціне  
Надзейнае шчасце  
Заносіцца плачам  
Ты помніш  
Гасціну ў князёў Мазавецкіх  
Як  
З замкавай плошчы  
Узіраліся ў Бзуру  
А парк  
Над Утратай  
Калі ішлі мы з Шапэнам  
Які іграў нам  
Мазуркі  
А караля Крывавуснага  
Помніш  
Што смерцю сваёй  
Расславіў Сахачэў  
Не помніш  
Ну і добра  
Не помні  
Гэтак  
Лягчэй развітацца  
Не так  
Душа плача  
Шкада  
Не паеду ў Сахачэў.




# Трывае конкурс для настаўнікаў

Ад 1 лістапада 1995 г. рэдакцыя „Зоркі” праводзіць конкурс для настаўнікаў, якія папулярызуюць беларускі друк і дзіцячую творчасць на старонках „Зоркі”.

У канцы мая 1996 г. конкурсная камісія вызначыць пераможцаў паводле крытэрыяў:

1) колькасць чытачоў „Зоркі” ў школе,

2) удзел вучняў у конкурсах „Зоркі”, (тэматычныя, пластычныя конкурсы, крыжаванкі, загадкі).

Зараз друкуем пераможцаў за лістапад і снежань 1996 г.:

I месца — ПШ у Кленіках — 117 балаў,

II месца — ПШ у Нарве — 110 балаў,

III месца — ПШ у Бельску-Падляшскім н-р 3 — 102 балы (тут сітуацыя можа змяніцца на карысць паасобных настаўнікаў),

IV месца — ПШ у Новым Корніне — 92 балы,

V месца — ПШ у Курашаве — 83 балы,

VI месца — ПШ у Чыжах,

VII месца — ПШ у Орлі,

VIII месца — ПШ у Махнатым,

IX месца — ПШ у Нараўцы,

X месца — ПШ у Палічнай,

XI месца — ПШ у Ласінцы,

XII месца — ПШ у Дубічах-Царкоўных,

XIII месца — ПШ н-р 2 у Гайнаўцы.

Конкурсныя балы камісія налічвае наступным спосабам: ад колькасці дзяцей, якія ходзяць на беларускую мову налічваем працэнт падпісчыкаў і карэспандэнтаў. Да гэтых працэнтаў дадаем лічбу карэспандэнцый. Гэта канчаткова вызначае колькасць балаў.

„Зорка” інфармуе, што можна яшчэ паспяхова прыступіць да конкурсу. Пераможцы атрымаюць грашовыя ўзнагароды.

Конкурс спансаруе гурт „Белы сон” з Беластока.

# Польска-беларуская крыжаванка н-р 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, якія падаем на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 13:** жалудак, жыла, рак, кот, нагода, рай, кажан, лыка, гук, дакор, ода, Кітай.

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі:

1) **Аня Пракапюк** з Трывежы,

2) **Дарак Баена** з Бельска-Падляшскага,

3) **Эмілька Сухадола** з Нарвы.

Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| PA-ROWÓZ | PĘPEK ↓ | | BALON ↓ RYZ ↓ | | WIĄZ → | | | |
| PĘCHERZ | | | | | | | | * |
| | | | | | RYJ → | | | |
| PA-SIERB → | | | | | | | | HAWÓZ, JAR ↓ |
| ← JAD | ↑ RÓZGA | KOT → | | | | | | |
| | | | ← DUGA | | AR → | | | |

# Вершы Віктара Шведа

## Пісьмовы стол

Вельмі цешыцца Ната:
Ёсць у хаце абнова.
Атрымала пад святы
Для сябе стол пісьмовы.

— Мае многа, вядома,
Мікалай Святы сілы,
Як да самага дому
Стол прынесці хапіла.

## Мне ёлку штучную купляйце!

Просіць бацькоў сваіх Наталля:
— Больш не купляйце з лесу ёлкі.
Шкада, каб ёлачкі ўміралі,
Як слёзы сыпалі іголкі.

Я штучную ёлку хачу ў хаце.
У штучныя я ёлкі веру.
У магазіне мне купляйце
Не ссечаныя сякерай!

## Якая сапраўдная дата?

Наталля пытае тату:
— Я маю, татулька, сумненні,
Якая сапраўдная дата
Ісуса Хрыста Нараджэння?

Ці снежань мо дваццаць пяты,
Ці студзень, магчыма, сёмы?
Падвойныя маем мы святы,
Па-новаму і па-старому.

# Дом маіх мараў

Я часам мару, што жыву ў невялікім доме ў лесе, каля возера. Гэты дом пабудаваны з дрэва, мае вялікія вокны і ганак.

У доме пяць пакояў. У кожным сцены памаляваныя на белы колер, на вокнах вісяць белыя фіранкі. На ганку стаіць стол, там кожны дзень сям'я абедае.

Перад домам знаходзіцца малы агарод. У ім растуць каляровыя кветкі. Далей відаць дарогу, па яе баках растуць высокія дрэвы.

Раніцай чуваць спеў птушак, галасы звяроў і ціхенькі шум возера. Пахнуць кветкі ў агародзе і дрэвы ў лесе.

Кожны дзень усе снедаюць разам. У нядзелю цэлая сям'я ходзіць на шпацыр па лесе, адпачывае. Зімой кормім звяроў і птушак, катаемся на каньках па возеры.

Летам усе ходзяць за чарніцамі, купаемся і загараем. Часам плаваем на лодцы.

На Раджджаство Хрыстова ўсе разам строім ёлку, спажываем куццю, спяваем калядкі і дарым сабе падарункі.

У гэтым доме заўсёды, не толькі ў свята, мілы настрой. Усе памагаюць сабе, размаўляюць аб сваіх клопатах. Усе разам перажываюць вясёлыя і сумныя хвіліны.

**Марылька Банадзюк,**
**Пачатковая школа н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім,**
**кл. VI „ц”**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# Крэўская унія

У 1385 г. у Крэве было падпісана пагадненне паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам, паводле якога вялікі князь меў стаць гаспадаром Польшчы і ажаніцца з дачкой памерлага караля Людвіка Ядвігай. Бацька Ядвігі хацеў, каб выйшла яна замуж за аўстрыйскага князя Вільгельма Габсбурга, але быў ён адкінуты польскімі магнатамі з увагі на нямецкае паходжанне. Палякі шукалі кандыдата на караля Польшчы і адначасова мужа Ядвігі, але такога, які мог бы паўстрымаць нямецкую экспансію на іх тэрыторыю. На пачатку XIV стагоддзя страцілі Сілезію, Памор'е, пад пагрозай былі Мазовія і Велікапольшча. Каб цалкам не страціць свае дзяржаўнасці, палякі шукалі пагаднення з гаспадаром Вялікага княства Літоўскага Ягайлам. Безупынныя войны паміж беларусамі і крыжакамі паспрыялі становчаму адказу князя на прапанову палякаў. Ягайла вырушыў тады ў Кракаў, а Вялікім княствам стаў кіраваць яго дваюрадны брат Вітаўт.

Ягайла, хаця быў ужо ахрышчаны ў праваслаўным абрадзе іменем Якава, пагадзіўся памяняць веравызнанне і прыняць новае імя — Уладзіслаў. Палякі не дазволілі каб праваслаўны князь кіраваў іх каталіцкай краінай, хаця новы пан Вавеля гаварыў на старабеларускай мове і ўсе яго разумелі.

У палове XV стагоддзя, пасля смерці караля, невядома адкуль палякі выцягнулі падроблены дакумент, у якім гаварылася, што ў Крэве Ягайла абяцаў далучыць беларускую дзяржаву да Польскага Каралеўства. Але ўсё гэтае дзеялася ўжо пасля перамогі пад Грунвальдам у 1410 г., калі знікла крыжацкая пагроза. На жаль, сёння ў школьных падручніках Крэўскую дамову прадстаўляецца паводле гэтага фальсіфіката.

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Охі-охі! Нэ-нэ!

Кажуць, што было тое тады, калі сённяшні Гарадок называўся Супраслю, а сённяшняй Супраслі цалкам не было на свеце. Валодаў тою старою Супраслю пан на рэдкасць людскі і богабаязны. Такіх калісьці густа сеялі, але чамусьці яны тады надта ж рэдка ўзыходзілі, відаць, гэтак Гасподзь караў нашых продкаў за грахі іхнія і асабліва за падатлівасць на спакусы нячыстага.

Любіў жа ж той пан, а звалі яго Хадкевічам, бываць з падарожнымі манахамі. Разам са сваёй паняй ды дзеткамі панічамі і паненкамі то малітву створаць з імі, то чароўных спеваў іхніх набожных паслухаюць, а калі дзеткі разбягуцца, дык дарослыя ахвочы паразважаць з брацціяй пра хуткацечнасць жыцця гэтага зямнога і пра Страшны Суд, які нікога не абміне.

Ну і задумаў жа той пан Хадкевіч каля свайго замка заснаваць манастыр, каб заўсёды мець пры сабе гэтых людзей Божых. Паставіў ён паблізу замкавых сценаў дыхтоўны будынак з манаскімі келлямі, капліцку і ўсё іншае, як мае быць, абсталяваў. Запрасіў з усіх бакоў свету манахаў старых і маладых, пасяліў іх і ўжо ўсцешыўся, што богаўгодную справу ўчыніў. А люд жа ў новы манастыр надта ж розны сышоўся: і прыстойны, і злачынны.

Звочыў тое нячысты. І, вядома, гэтаму ворагу ўсяго дабрачыннага справа пана Хадкевіча зусім не прыйшлася да спадобы. Стаў ён па сваёй рагатай галаве чухацца і ў мазгі заходзіць, каб рэч панскую, значыцца, сапсаваць. Круціўся ён, вярцеўся, бы на ражне, прыкідваў і сяк і так і ўсё ж прыдумаў. Вядома ж, нікчэмнае то яно заўсёды лягчэй у галаву лезе, а да таго — у чортаву.

Манахі прыбылі ў Супрасль з розных краін свету, ды на розных мовах размаўлялі. Ды і звёў д'ябал тутэйшых падляшукоў з грэкамі, што з самага краю свету Божага прыйшлі.

Вялікім Пастом тое было. Вясна. Усялякае Божае стварэнне да жыцця абуджалася. Сяляне ў поле рушылі. Таксама айцец ігумен сказаў брацціі, што настаў час манастырскі агарод капаць.

Пасля абедні мясцовыя манахі падкасалі свае пакутныя валасяніцы і сказалі грэкам: „Пайшлі, братцы, пралієм і мы кроплю поту для справы агульнае”. Тыя ж у адзін голас: „Нэ-нэ!” ды закруцілі галовамі. „А чаму ж гэта, браткі?” — прысталі да іх падляшукі. Тыя ж круцілі галовамі ды цвярдзілі сваё: „Нэ-нэ!” ды „Нэ-нэ!” Угневаліся падляшукі, прынеслі лапаты, тыцнулі іх грэкам у рукі і паказалі перад сабою дарогу ў агарод. Капаюць манахі, капаюць, а ўсюды дзёран ды карані. Цяжка аслаблі ад шчырага посту. Да таго ж сонейка прыпякае — пот вочы залівае. Тут то зноў нячысты да нямоцных у веры прыступіў і пачаў спакушаць рознымі здагадканамі ды пажадлівасцямі. Яны і мовілі грэкам:



Талон "Зоркі" н-р 5
4.02.1996

# Ёлка ў Чаромсе

20 студзеня вёска Чаромха ажыла! Жыхары святкавалі не толькі свята „Трох каралёў" (інакш *Вадохрышча, Богаяўленне*), але і школьную „ёлку". Пра папулярнасць школьнага мерапрыемства сведчыць перапоўненая зала. Прыйшлі не толькі бацькі дзетак, але і бабулькі з дзядулямі, маленькія дзеткі, многія іншыя аднавяскоўцы. Прыбыло таксама шмат гасцей з Чаромхі, былі святар і матушка з мясцовай парафіі.

Святочны настрой папаўняла сцэнічнае афармленне. Залу прыбралі ёлкамі, зоркамі, каляровымі стужкамі, над сцэнай вісеў малюнак з выявай Дзеда Мароза. Найбольшае ўражанне стварылі святочныя строі дзетак. На працягу двух гадзін трывання школьных выступленняў артысты пераапраналіся мабыць з дзесяць разоў! І за кожным разам былі яны ўсё прыгажэйшыя. Як сказала настаўніца Галіна Саўчынская, строі дапамагалі ім рабіць бацькі.

— Да ёлкі рыхтаваліся мы некалькі месяцаў, — дадала яна. — У вёсцы Чаромсе няшмат вучняў, усяго дваццаць дзетак. Тут толькі дашкольнікі, першакласнікі і трэцякласнікі.

Настаўніцы Галіна Саўчынская і Галіна Шатыловіч вельмі хваляваліся за сцэнічны поспех сваіх дзяцей, час ад часу ратавалі юных дэкламатараў падказкамі. Публіка цёпла ўспрымала выступленні дзяцей. Вельмі падабаліся анекдоты, чытаныя старэйшымі вучнямі. Гледачы высока ацанілі канцэрт пад лозунгам „Спявай у хаце, спявай у школе". Відаць, і тут захапляюцца перадачай „Od przedszkola do Opola". Юныя спевакі прапаялі несмяротныя „гіты", між іншым: „Och, jak bardzo cię kocham", „Żółty jesienny liść", „Mała błękitna chusteczka". Публіка не шкадавала апладысментаў. Пэўна таму дзеці занадта не хваляваліся. Жыва і вясёла праспявалі гуральскія песні. Для гэтага мелі гуральскія касцюмы.

Многіх захапіла п'еса „Чырвоная Шапачка". Мне найбольш спадабалася афармленне сцэны. Многім дзеткам, здаецца, таксама. Калі на сцэну з'явіўся Воўк, сярод публікі пачуліся крыкі і плач. Гэта малечы пералякаліся ваўчыска!

Вялікай папулярнасцю карысталіся беларускія песні. Дзеткі чароўна праспявалі рэпертуар бельскай „Маланкі". Песні „Цыганка-каханка" і „Грымата" падхапіла ўся зала і да канца апладзіравала.

У ходзе мерапрыемства выявілася многа беларускіх акцэнтаў. Школьнікі дэкламавалі вершы беларускіх класікаў і „белавежцаў". У іх выкананні незвычайна гучалі творы Віктара Шведа і Мікалая Панфілюка. Дашкольнікі, першакласнікі, хаця яшчэ не пабывалі на ўроках беларускай мовы, прыгожа спявалі і дэкламавалі па-беларуску. Навучыла іх настаўніца Галіна Саўчынская, па спецыяльнасці беларусістка.

— У другім і трэцім класе ўсе дзеткі наведваюць урокі роднай мовы, — адзначыла Галіна Саўчынская. — На жаль, у гэтым годзе няма другога класа. У вёсцы аднак многа малых дзетак, якія праз два-тры гады прыйдуць у школу.

А зараз, як ніхто, пайшлі танцаваць. Музыканты, нядаўнія выпускнікі, не ленаваліся, бадзёра прыгрывалі да скокаў. Нават бацькі, што стаялі пад сценамі, мімавольна сукалі ў такт нагамі. Многія з іх любаваліся сваімі малечамі, што гоцалі пасярод каляровай залы.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота Міколы Ваўранюка**



*Дзеці часам спяваюць і па-гуральску.*



*Спектакль "Чырвоная Шапачка".*



*Анёлачкі-дашкольнікі.*



*Спадарыня Галіна Саўчынская.*



*Наймалодшыя дэкламатары.*



*Бабулі таксама добра гулялі.*

„Келар наш піўца вунь колькі навары ў, пад свята ў склепе студзіць. Пайшлі, хлябнем па кварце, ахалонем..." Грэкі ад уражання аж лапаты з рук выпусцілі ды як загаласілі: „Охі, охі!.." і згодна заківалі галовамі. Ухмыльнуліся падляшукі, што вось на такое то і грэкі згодныя, узялі іх па-прыяцельску пад рукі ды павялі ў манастырскую келарню.

Келара якраз не было, дык яны ў тым склепе знайшлі піўную бочку, адбілі шпунт і сталі смагу спаганяць. Грэкі, скумекаўшы, на якое праступства іх славянскія браты схіляюць, кінуліся ў дзверы ды зноў закрычалі: „Охі-охі!" Але падляшукі іх запынілі: „Не вохкайце, ано піце!.." ды да грэшнага ўчынку прымусілі.

Хоць яно і піва было маладое, але хмель — хмелем ды яшчэ на выпашчанае нутро! Апаражнялася анталка, затое настрой у брацкі падымаўся. Праз колькі хвілін і спевы пачуліся і то зусім не велікапосныя... Дакаціліся яны і да ігуменавай келлі. Пачуўшы іх, кінуўся айцец у агарод — а там ціш, пуста, толькі лапаты параскіданыя валяюцца. І тут то ён здагадаўся, куды ягоны статак заблукаў.

Справа разглядалася неадкладна, якраз у Чысты Чацвер. Разбіралі яе ігумен са старцамі ў прысутнасці пана Хадкевіча. Не было ні літасці, ні змілавання — усіх півошнікаў прэч з манастыра выгналі, таксама спакушальнікаў, як і спакушаных. Не памаглі ні абяцанні ні прысягі. „Грэх караем, а не людзей", — маўлялі старцы, і грэшнікі спаткалі Вялікдзень на пустых шляхах воддаль гасціннага Супрасля. Адных язык павёў у Кіеў, другіх у далёкую Грэцыю, а іншых — куды іхнія вочы глядзелі. А ў кожнага з іх у вушах звінела: „Охі-охі" ды „Нэ-нэ". Гэта шайтан ім падарожную песеньку спяваў.

Засталася ў Супраслі манаская грамадка невялічкая, затое ж прыстойная. „Не бойся, малы статак; бо Айцец ваш упадабаў даць вам Царства", — сказана ў Свяшчэнным Пісанні. І праўда, пасля таго расцвіў Супрасльскі манастыр у слаўную лаўру. Але пра тое ў іншай легендзе.

**Пачуў каля Гарадка**
**і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

**Ігумен** — настаяцель мужчынскага манастыра.

**„Нэ-нэ"** — па-грэчаску значыць: „так-так", „згода".

**„Охі-охі"** — па-грэчаску значыць: „не-не", „нязгодны".

**Келар** — манах, які ведае гаспадаркай манастыра.

**Кварта** — кубак, пераважна драўляны, ёмістасцю ў 0,7 літра.

**Келарня** — кладоўка, склад, камора.

**Шпунт** — затычка, корак, пробка.

**Анталка** — невялікая бочка на піва або віно.

**Келля** — асобны невялічкі пакой манаха або манашкі.

**Старац** — пажылы аўтарытэтны манах-падзвіжнік.

**Лаўра** — вялікі манастыр.

 

# З дзённікаў С. Яновіча

**1994 — 01 — 28.**

Днямі камунякі ў парламенце РБ пазбавілі Шушкевіча старшынявання Вярхоўнаму Савету. Начаўплі шуму на ўвесь свет і абедзве Амерыкі! Нягледзячы на нядаўні візіт Клінтана ў Менск. Новым спікерам стаў Мечыслаў Грыб, нейкі генерал.

Імперыя, канаючы, кусаецца. Правінцыі заўсёды доўга кансерватыўныя.

Дваццаць пятага правёў дзень у гайнаўскім *беларускім* ліцэі; здаецца, трэці раз і там за сваё жыццё. Зняcільваючы тэмп: адна за адною тры аўтарскія сустрэчы ў паасобных класах, і вечаровы дыспут *Як быць беларусам у Польшчы?* у міжшкольным Клубе беларускіх справаў, які арганізаваў Яўген Вапа (без яго ніхто мяне не запрасіў бы). Вазіў — Хадасевіч; яму цяпер важна паяўляцца са мною.

Ураджанне ад наведання г. ліцэя, сустрэчаў і дыскусіі найчорнае: амаль поўная паланізацыя! Вапа са сваім патрыятызмам трохі *белая варона*. Амаль усе вучні — мяшчане, гайнаўяне; вёска ўжо не мае натоўпаў моладзі, выграе, бы вулкан.

Характэрная дэталь: дэкламуеш ім што па-беларуску — няўважліва слухаюць, а калі ў пальшчызне — усталёўваецца цішыня, увага. (...)

**1994 — 01 — 29.**

Важнае нам тут выказванне Алега Латышонка ў *Кур'еры Паранным* з нагоды Генікавай кн. *Białorusini w Polsce...* Беларускі нацыянальны рух нарадзіўся на лініі Беласточчына — Віленскі універсітэт, а творцамі яго былі уніяцкія святары (Алег пісаў пра гэта ў *Беларускіх Навінах*, малатыражным бюлетэне БДА). Палякам, увыклым лічыць нас *палякамі*, гэта будзе шок! Ну і добра.

Поўна ў друку пра вяртанне Расеі ў Беларусь і Украіну. *Азірнуўся Гаўрыла...* Польскае шавінякоўства падціснула хвост. Скажам, годам назад кожнае маё выступленне ў нейкай папулярнейшай газеце квітавалася ананімнымі тэлефоннымі званкамі з пагрозамі, нават апоўначы, а цяпер — нічога, ані гу-гу! Зразумелі, што не беларусы ім небяспечныя? (...)

**1994 — 01 — 30.**

Учора дапісаў *Позні розум Алега*, пачаты ў шыбенічным сумоцці на падашку ў жнівеньскім доме бацькавым.

— Лішне баюся я прыкрага для мяне пералому ў вяртанне сваё ў Крынкі на рэшту жыцця. Гэта бярэцца з таго, што Беласток н е к а л і шумеў ды гудзеў ад грамадскага руху. Сённячы наш усходні калектывізм апынуўся на раздарожжы; да індывідуалізму, культу ўдачы а д н а г о, яшчэ далёка нам. Думаю, што гэта галоўнае. Можна тут дадаць не зусім другараднае ў маім становішчы: паланізацыя рэдукавала беларускае асяроддзе, таксама інтэлігентнае. Не без значэння адыход з публічных справаў маіх равеснікаў, усяго дзяяцкага пакалення, якое заглухла пасля ўпадку блізкага яму камунізму. Яно паўторна не ажывіцца, так у прыродзе чалавека не здараецца. Ціха мрэ.

Усё каштуе. Таварыскае праводжанне часу ўжо мала каму па кішэні. Ды часу таго бракуе ў пагоні за халтуркамі. А перш за ўсё — сэнсу. Даўней твой аванс залежаў амаль цалкам ад сувязяў, як гэта зазвычай у сістэмны ападыктызм. Цяпер жа даволі мецьц грошы; нават адукацыю неабавязкова. Іронія гісторыі: бунт, перамога інтэлігенцыі супраць таталітарызму закончылася... маргіналізацыяй яе. (...)

(...) З сесіі Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Алег Латышонак як Старшыня паставіў пытанне аб ліквідацыі Аб'яднання на III Кангрэсе (сакавік). Падтрымала яго пераважаючая большасць; супрацівіліся: Пятро Крук, Валянцін Сельвясюк, Пятро Юшчук, Антон Міраноўіч, і я.

(...) Кажуць: стаміліся, змарыліся... Дзеці! Усяго хочуць хутка і многа! Калі ласка напрацавацца на ўдачу. (...)

**1994 — 02 — 27.**

З семінара *Белавежы* (— Сэнюх, пераклад *Новай зямлі*). Заўсёды, халера, сум пасля вяртання дамоў! Такі невытлумачальны. Беспадстаўны нават. Ці не таму, што мой свет канае? Элегія!

**1994 — 03 — 12.**

Седзячы ў пачатку месяца ў Крынках ды слухаючы часам радыётрансляцыі пасяджэннян таго нібыта-беларускага нібы-парламента, з радасным здзіўленнем пачуў я (ці не 3.III?), што, урэшце, прагаласавалі артыкул будучай Канстытуцыі, у якім сцвярджаецца дзяржаўнасць беларускай мовы! Мала не ўмлеў ад палёгкі... Ад гэтага моманту адхаецца нават цікавіцца палітыкай. Несмяротнасць Беларусі ў ж о гарантуецца!

Са скрыпам пішу сцэнічны твор на 400-годдзе Праваслаўнага брацтва ў Бельску. Калі б не тое, што змяшчаю ў ім паліміку н.т. месца Беларусі паміж Польшчай і Расеяй, псіхічна не ўтрываў бы *цягнуць за вушы* г. твор да нейкага больш-менш прыстойнага ўзроўню. Заракаюся болей не паддавацца падобным *грамадскім заказам*. (...)

**1994 — 03 — 13.**

(...) Удаюцца яшчэ імпрэзы тыпу відовішча. Такую мінулай нядзеляй наладзіла БГКТ ( — *Беларуская песня'94*, у вялізным *Влукняжы* на Антанюкоўскай). Прыбыў мін. Краўчанка, вяртаючыся з Бона, а з ім чарада іншых; з палякаў — віцэ-маршалак Сойму Малахоўскі, віцэ-прэм'ер Цімашэвіч, віцэ-ваявода, прэзідэнт Беластока, etc. Што і казаць: гігантская ўдача БГКТ! Дзякуючы савецкаму Менску.

Сякі-такі прэстыж выпаў, аднак, і на долю БДАаўскага Беларускага Саюзу (куліcаў не ведаю). Амаль гадзінную сустрэчу (16—17) дзеячаў усіх арганізацыяў з мін. Краўчанкам і інш. вёў... Пятро Крук (па-мойму, добры кандыдат на шэфа БДА новага этапу). Тыпова палітычная падзея: мерытарычна пустая, затое густая патрэбнымі для нас настроямі важнасці бел. руху (...).

*(працяг будзе)*

# Беластоцкія студэнты ў Менску

*Працяг са стар. 1*

каюцца са сваімі сябрамі з іншых вучэльняў.

Замуж пакуль ніхто не выйшаў за нашых хлопцаў, і ніхто з вашых хлопцаў не ўзяў нашу дзяўчыну. Але нічога не зробіш. Сябруюць, праўда, усе з нашымі студэнтамі.

Жывуць у лепшым інтэрнаце па нашых мерках. Дарэчы, нашы студэнты жылі ў ненамнога лепшых умовах у Познаньскім універсітэце. Студэнцкае жыццё ёсць студэнцкае і да ўсяго трэба прывыкнуць. А што тычыцца вучэбнага працэсу і ведаў па мове, то хачу заўважыць, што ў нашым універсітэце атрымоўваюць адукацыю, нягоршую чым у Польшчы, вядома, тым, хто захоча.

У гэтым годзе ўжо будуць першыя выпускнікі, якія паедуць працаваць у Польшчу. Хай прынясуць яны карысць Беласточчыне, гэтаму міламу і арыгінальнаму куточку на Зямлі.

**Алена Таболіч,**
**дацэнт Менскага лінгвістычнага універсітэта**

# „РОБІМ НАЙЛЕПШ ЯК УМЕЕМ"

**— кажа ЕЖЫ МУШЫНСКІ —** старшыня Акцыянернага таварыства Polskie Radio Białystok.

*— Штодзённыя беларускія перадачы Беластоцкае радыё стала выпускаць у эфір у сакавіку 1990 года, ужо за Вашага дырэктарства. Як гэта адбылося?*

— Перадачы былі і раней. Знамянальную перамену ў жыцці нацыянальных меншасцей прынёс 1956 год. Беларусы і літоўцы атрымалі невялікія адрэзкі часу на антэне ў Беластоку, украінцы — у некалькіх радыёвяшчальных станцыях. Рашэнне аб стварэнні ў нас Рэдакцыі нацыянальных меншасцей было прынята ў 1989 годзе, а рэдакцыя была створана ў пачатку 1990-га. Першым яе кіраўніком быў Станіслаў Пазнанскі. Прыпамінаю, што тады кіруючым органам радыёвяшчання быў Радыёкамітэт і ўсе рашэнні, перш-наперш фінансавыя, але таксама адносна праграм, прымаліся ў Варшаве.

Пазней, здаецца ў 1993 годзе, з патрабаваннем украінскамоўных перадач выступіў Саюз украінцаў Падляшша. Тады рэдакцыя была пашырана, былі створаны новыя штаты, а час перадач — павялічаны. Гэта было рашэнне, яшчэ раз нагадваю, Радыёкамітэта. Так склалася, што пазней усё Польскае радыё, у тым ліку і наша станцыя, прайшло трансфармацыю — былі заснаваны гандлёвыя суполкі. Беластоцкае радыё стала гаспадарча самастойным суб'ектам. З тым, што ўзнік новы адміністрацыйны орган — Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання. Яе заданне — стварыць стратэгічную палітыку ў радыё і тэлебачанні. Кожны дзень рада праграмамі не займаецца, але пазней іх кантралюе, ці згодныя яны са статутам публічнага радыё.

*— Ці ёсць магчымасць яшчэ пашырыць вашыя перадачы для нацыянальных меншасцей?*

— Некалькі месяцаў таму атрымаў я ад арганізацый усіх нацыянальных меншасцей з нашага рэгіёна такую просьбу. Але рашэнне не залежыць выключна ад нас, бо яно стратэгічнае і мусіць быць згоднае з агульнай інфармацыйнай палітыкай дзяржавы. Такімі справамі займаецца Краёвая рада, а ў гэтай, пакуль што, не ўзяла слова. Тут, вядома, ідзе пра грошы. Публічнае радыё ўтрымліваецца, галоўным чынам, з абанементу, які па лакальных асяродках раздзяляе якраз Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання. Не можам павялічыць чагосьці, на што не дастанем грошай.

*— А ці цяпер, пры раздзеле абанементу бярэцца пад увагу тое, што ў нас праграмы для меншасцей?*

— Не. А ў 1996 годзе Рэдакцыя нацыянальных меншасцей будзе каштаваць нас каля двух мільярдаў старых злотаў. Я ўжо тлумачыў у Варшаве, чаму мы не можам павялічыць эфірны час меншасных перадач, бо тыя дадатковыя дзесяць хвілін па сутнасці нічога не мяняюць. Тут трэба шукаць нейкую глабальную развязку, ці то стварыць аддзельную праграму, ці асобнае радыё. Не трэба тут замахвацца адразу на нешта вялікае. Такое прыватнае радыёвяшчанне, для прыкладу, не мусіць працаваць кругласутачна, ці мецьц вялікі абсяг.

*— Калі б, дапусцім, беларусы на Беласточчыне заснавалі сваё радыё, маглі б разлічваць на Вашую дапамогу?*

— Я магу дэклараваць прафесійную дапамогу. Мы можам сарганізаваць курсы для журналістаў, падрыхтаваць людзей, падказаць тэхнічныя развязкі і таму падобнае. Безумоўна, прыватнае радыё для меншасцей, гэта таксама аспект інфармацыйнай палітыкі дзяржавы. Калі фінансуюця выдавецтвы, можна старацца атрымаць і дафінансаванне прыватнага радыё.

*— Як Вы ацэньваеце перадачу „Пад знакам Пагоні"?*

— Я думаю, што для цяперашняй праграмнай формулы, яна аптымальная. Слухачы атрымліваюць інфармацыю, ёсць кароткая публіцыстыка, музыка і песня. Слухачы абсалютна патрабуюць беларускую песню. Папулярнасць „Беларускага канцэрта пажаданняў" пачынае быць праблемай, бо песні не змяшчаюцца, расце запатрабаванне, а час абмежаваны. Будзем старацца выкарыстоўваць беларускую песню і ў польскіх перадачах. Я лічу, што беларускія перадачы роблены найлепш як умеем. Можна дыскутаваць пра сутнасць зместу, ці ён цікавы, карысны, ці журналіст крытычна падыходзіць да праблемы, ці толькі коўзаецца паверсе. Трэба аднак памятаць, што ўзровень матэрыялу ў перадачы залежыць не толькі ад журналіста, але і ад яго субяседніка, бо не кожны можа гаварыць разумна. Зрэшты, змест праграм, гэта клопат кожнае рэдакцыі.

*— Ці праводзіце Вы нейкія кансультацыі з прадстаўнікамі беларускага асяроддзя?*

— Так, апошняя сустрэча прайшла зусім нядаўна. Магу сказаць, што мае кантакты з беларускімі арганізацыямі былі ацэнены станоўча, ніхто не закідаў мне неаб'ектыўнасці. Былі заўважаны нашыя старанні, каб гэтыя перадачы рабіць усё больш атракцыйнымі. Знаходзіць у іх адлюстраванне, напрыклад, літаратурны рух, нешта ёсць для дзяцей, апошнім часам крыху гумару паявілася. Было, зразумела, шмат крытычных заўваг, між іншым, што некаторыя тэмы асветлены недастаткова. Мы ўсе заўвагі разглядаем усур'ёз, стараемся працаваць з іх улікам. Напэўна, аднак, не належыць да нашых абавязкаў наладжванне адносін між самымі меншасцямі. Ёсць не канфлікт, але пэўныя недаразуменні між беларускімі і украінскімі дзеячамі тут на Падляшшы. Гэта, хутчэй за ўсё, справа амбіцыі паасобных людзей, напэўна няма канфлікту ў грамадстве. Мы ў такія справы не мяшаемся, выбар нацыянальнасці пакідаем свабоднай волі кожнага чалавека. Радыё таксама не вядзе цэнзуры выказванняў. Калі здараюцца нейкія словы, якія кагосьці кранаюць, трэба з імі палемізаваць, а не чакаць, што радыё будзе цэнзарам.

*— Напэўна праводзіце нейкія апытанні радыёслухачоў. Ці праграмы для меншасцей у найлепшую пару не выклікаюць раздражнення польскай большасці?*

— Нядаўна, 8 студзеня была ў нас сур'ёзная праграма пра меншасці, у час якой званілі нам слухачы. Звярніце ўвагу, што, хаця мы не праводзілі ніякай селекцыі тэлефонных размоў, не было ніводнага варожага выступлення. Ёсць, безумоўна, людзі, якія лічаць, што гэтага замнога, што не ў тую пару, але гэта адзінкі. Прытым, мне здаецца, папулярнасць гэтых перадач расце. Напэўна многа людзей у 18.30 пераключае свае радыёпрыёмнікі на іншую станцыю, але мы не заўважылі. каб нас тады намнога менш слухалі. Значыць, ёсць верныя слухачы гэтых перадач.

*— Радыё цяпер вельмі хутка мяняецца. Паявіліся прыватныя, вельмі дынамічныя станцыі, якія выцясняюць з рынку публічнае радыёвяшчанне. Каб ісці ў нагу з духам часу, мяняецца і Беластоцкае радыё, між іншым, змяншаецца роля магнітафоннага запісу, затое ўсё больш прамога эфіру. Ці прадбачваецца змена ў меншасных праграмах?*

— Я думаю, што пры цяперашняй праграмнай формуле, тыя 15 хвілін ці паўгадзіны выкарыстаны эфектыўна. Можна пашыраць удзел рэпартажу, але гэта будзе за кошт нечага іншага, напрыклад песні. А песню слухачы патрабуюць абсалютна. Трэба, безумоўна шукаць новых развязак, ідэй і мы гэта робім. Мы не хочам, каб беларуская праблематыка кранаць на нашай антэне толькі ў беларускамоўных перадачах. Пра ўсе справы лакальнай грамадскасці гаворым кругласуткі.

*— Дзякуй за размову.*

**Гутарыў Мікола Ваўранюк**



 

# Як „Белавежа” сустракала Новы год

На цёмна-блакітным запрашэнні — разгалісты дуб белавежскі. Управа Беларускага літаратурнага аб’яднання запрашае на „лукулавы пачастунак” *дзеля супольнага застольнага прывітання Новага 1996 года ў крузе беларускіх літаратараў.* Сустрэча больш месяца рыхтавалася ў думках, запаветная дата намечана была чырвоным алоўкам у запісных кніжках: 21 студзеня, нядзеля, там, дзе заўсёды: вул. Лінярскага 4, дзе колькі ўжо гадоў сустракаемся на літаратурных семінарах у апошнюю нядзелю кожнага месяца. У праграме прадбачвалася: *1. Музыка, бяседы; 2. Паэты абяцаюць прачытаць свае 2-3 вершы; 3. Празаікі і ўсе астатнія маюць падрыхтаваць спіч.* І дададзена: **Carpe diem!** — *Цешся днём, карыстай з дня!* — па-нашаму. Так вось стаяла па-класічнаму на запрашэнні, аздобленым яшчэ, калі справа ў расліннасці, і антычнымі лісточкамі аканту.

Пачастункам занялася пані Тэрэса Занеўская, спецыялістка не толькі па тэорыі і практыцы літаратуры, але і адмысловых „канапачках” і „корачках” і далікатных ды моцных напітках, якія ў змозе ўзняць душу ў натхнёны палёт. А ўся рэшта — згаданыя ўдухоўленыя паэты ўсёй велічыні — ад Міхася Шаховіча аж да Янкі Леанчука, больш і менш рэалістычныя празаікі ды з любасцю чаканыя госці з’явіліся на бяседнае застолле для душы і цела, бо і яно ёсць і ў натхнёных духам і гусіным пяром асоб.

Паявілася і Тэлебачанне з сур’ёзным Юркам Калінам. Спачатку хлопцы дарваліся да Сакрата Яновіча пад штучнай ялінкай, асляпілі яго пражэктарамі. Сакрат любіць гаварыць шмат і са смакам; вельмі карысна (хоць у апошні час надта аскетычна) прэзентаваўся Сакрат на фоне вельмі *зялёністай* і *гусіністай* ёлачкі, распавядаў пра моц і эмоцыі ў *даліне* і даўніне „белавежскай”. У даўніне, бо ж гэта **сорак** гадоў, як „Ніва” нарадзілася, і дала свой палетак „Белавежы” — трыццаць восем гадоў будзе, як штомесяц „белавежцы” цешаць душу чытача краскамі сваёй фантазіі на традыцыйнай ніўскай палосцы...

Узяў голас і наш жаданы госць, Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхал Слямнёў. Міхал Аляксандравіч у наш гонар сказаў пару цёплых слоў (не толькі ў наш, „белавежскі”, адрас, але і ўсіх беларусаў, якія трымаюць наш гонар — па-за межамі таго месца, якое завуць Беларуссю — і ствараюць яе культуру). Прачыталі мы свае найлепшыя вершы, паўспаміналі, трошачкі можа і пасумавалі — прайшла яшчэ адна вясна, восень, зіма...

Закончыўся 1995 год. Быў ён няхепскім і досыць плённым для „Белавежы”. Выдадзены чатыры кнігі: „Listowie” С. Яновіча (пад 60-годдзе), „Дзверы” Н. Артымовіч, „Шчэ одна вэсна” З. Сачко, „Ёсць” М. Лукшы. Штомесяц Літаратурная старонка, рэдагаваная С. Яновічам, давала месца паэзіі, прозе, перакладу, эсэ, мастацтву. Творы нашых аўтараў і агляды іх творчасці публікаваліся ў польскім і замежным друку, перакладаліся на іншыя мовы. Некалькі нашых вядомых у свеце аўтараў „прыняў” у свае рады Саюз пісьменнікаў Беларусі; вядома, рады мы такім гонару ды ласцы.

Нарадзіліся не толькі думкі і творы, але і дзеці ды ўнукі і ў нашых творцаў пяра, і гэта тым больш цешыць: папаўняюцца рады чытачоў... Ну, вядома: *хай усім за ўзор будзе Віктар Швед!* І згодна з ім творам „на акалічнасць”, адпаведным сітуацыі і настрою, **Міра Лукша** завяршае сваю справаздачу.

## Carpe diem!

На лукулавы абед  
Прыйдзе з сям’ёй Віктар Швед,  
Згодна з гасцінай вып’ю, з’ем,  
Carpe diem!  
Прыходзь шумліва „Белавеж”  
І што дадуць дык пі і еш.  
Бо што даюць, тое бярэм,  
Carpe diem!  
Наш старшыня і наш паэт  
Фундзіць лукулавы абед.  
Дык мы шчаслівыя ідзем,  
Carpe diem!  
Створым святочны карагод,  
Уславім разам Новы год,  
Дружнай сям’ёю запяем:  
Carpe diem!



*Віктар Швед, Янка Леанчук, Міхась Шаховіч, Міра Лукша, Васіль Петручук, Сакрат Яновіч.* **Фатаграфавала Надзея Артымовіч**

# Нядзеля пра мытніка і фарысея

*(Лукі, 18:9-17)*

Чарговая падрыхтоўчая нядзеля перад Вялікім Постам называецца нядзеляй *пра мытніка і фарысея.* Назоў узяты з папулярнай прытчы з 18-га раздзела Евангелля паводле Лукі. У ім прыводзіцца аповед, які паказвае памылковасць чалавечых ацэнак. Двое людзей маліліся ў храме. Першы з іх быў фарысеем, прадстаўніком паважанай у грамадстве касты, якая ўвасабляла высокую пабожнасць і патрыятызм. Прыблізна шасцітысячная група фарысеяў была элітай і гонарам народа. Другі з герояў прытчы быў мытнікам, адным з урадавых служачых, якія нажываліся, абдзіраючы і ашукоўваючы людзей. Народ пагарджаў мытнікамі, а яны, адасобленыя ад грамадства, адплачвалі яму яшчэ большым прыгнётам і жывадзёрствам.

Фарысей маліўся самаўпэўнена і ганарыста: „Дзякую Табе, Божа, што я не такі як іншыя людзі: скурадзёры, крыўдзіцелі, пралюбадзеі або як гэты мытнік. Пашчу два разы ў тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што прыдбаю. Мытнік, стаўшы здалёк, „біўся ў грудзі і благаў: Божа, будзь міласцівы нада мною грэшным”. „Кажу вам, — заканчвае евангельская прытча, — што гэты апошні пайшоў апраўданы болей, чымсьці той; бо ўсякі, хто сам сябе ўзвышае, будзе паніжаны, а паніжаючы сябе, узвысіцца” (Лукі, 18:1—10).

Дзве малітвы, а ў кожнай толькі некалькі слоў. Аднак у гэтых некалькіх словах адлюстраваліся дзве душы, два характары, два жыцці. Прытча невыпадкова паказала іх абодвух не ў звычайным жыцці, а падчас малітвы, у вельмі інтымнай сітуацыі. Калі гаворым або нешта робім, не заўсёды гэтак думаем. Амаль кожнаму з нас характэрна папраўляць сваю біяграфію. Звычайна гаворым, тое, што добра пра нас сведчыць і робім тое, што можа выклікаць добрае ўражанне. Таму і ацэнка вонкавых паводзін не можа быць аўтарытэтнай. Сапраўдным і заўсёды шчырым чалавек можа быць у тым, чаго нябачна і нячутна: у думках, у марах і ў малітве.

Пасля двух тысяч гадоў фарысеі атаясамліваюцца з крывадушніцтвам і ханжаством. У адрозненне ад тагачаснай ацэнкі іх грамадствам, гэтак жа адмоўна ставімся цяпер да езуітаў, крыжаносцаў, інквізітараў і камуністаў. У свой час яны верылі ў слушнасць сваіх ідэалаў і нічога дрэннага не бачылі ў метадах іх ажыццяўлення. Аднак цяпер, з перспектывы часу бачым, што мэта не апраўдвае любых сродкаў. Відаць, у нечым яны ўсе перабралі меру, калі гісторыя іх аднаэначна асудзіла.

Відаць, адной з найцяжэйшых умеласцей з’яўляецца пачуццё меры. Калі ў сваіх абавязках бываем скрупулёзнымі і педантычнымі, тады напамінаем машыну без душы і чуллівасці. Калі дасягаем высокіх пасадаў і тытулаў, губляем пакору і самакрытыку. Калі вырашаем жыць толькі дзеля духоўнай чысціні, можам стацца нелюдзьмі, без сувязі і разумення рэальнага жыцця. Можа здарыцца таксама, што прапаведваючы высакародныя ідэі, у жыцці застаемся маладушнымі, а акружэнне ўбачыць супярэчлівасць паміж тэорыяй і практыкай.

Паводле халоднага падліку, фарысей быў больш справядлівы, чымсьці мытнік і гэтак, паводле сухіх фактаў, рассудзіў бы кожны суд. Аднак у мытніка была адна істотная прыкмета, якая выратавала гэтага падонка грамадства. Ён, пры ўсіх сваіх заганах, усведамляў іх і хацеў іх пераадолець. Хто не мае схільнасці аб’ектыўна сябе ацаніць, той і не паправіцца, бо не бачыць такой патрэбы. Будучыня за тымі, хто здольны да самакрытыкі, да змены поглядаў і паводзін; хто, бы дзіця, можа яшчэ вучыцца, успрымаць новыя ідэі і прызнацца да памылак!

Евангельскі сюжэт мае сваю аналогію і ў нашай сучаснай рэчаіснасці. Сярод нас дастаткова фарысеяў і мытнікаў. У працэсе самаачышчэння грамадства фарысеі не каюцца, бо не бачаць такой патрэбы. Людзей са старым менталітэтам нельга ўжо перавыхаваць, як не перасаджваецца старых дрэў. У некаторым сэнсе мы ўсе зграшылі; хто дзейна, хто пасіўнасцю. Каб пачаць новае жыццё, неабцяжаранае мінулым, спатрэбілася б усенароднае, мытнікавае раскаянне: перад Богам і перад народам. Тады была б прынамсі надзея на лепшае. Тады здзейсніўся б евангельскі прынцып, што „першыя будуць апошнімі, а апошнія — першымі”.

**а. Канстанцін Бандарук**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

*Album magistrów Instytutu Historii 1977-1994. Uniwersytet Warszawski Filia w Białymstoku Wydział Humanistyczny Instytut Historii, Białystok 1995, ss. 60.*

(Wybrane prace dot. problematyki społeczno-narodowościowej).

WARPECHOWSKI Zdzisław: Szkolnictwo w guberni grodzieńskiej a problem trwałości barier społecznych i narodowościowych, (1977).

KONSTANTYNOWICZ Sławomir: Komunistyczna Partia Zachodniej Białorusi w Białymstoku w okresie Frontu Ludowego w latach 1933-38, (1977).

CIWONIUK Nina: Rozwój osadnictwa w starostwie jałowskim do końca XVIII w. w świetle toponimii, (1979).

GRYGORUK Mikołaj: Działalność Komunistycznej Partii Zachodniej Białorusi na Białostocczyźnie w latach 1929-1933, (1979).

JARMOLIK Włodzimierz: Geneza i pierwsze lokacje miast województwa podlaskiego (XI - pierwsza ćwierć XVI w.), (1980).

ROSZCZENKO Mikołaj: Rozwój osadnictwa i gospodarki Kleszczel oraz okolicy do końca XVIII w., (1980).

DĄBROWSKA Danuta: Mniejszość białoruska w Polsce w latach 1919-1939, (1980).

SKUTNIK Tadeusz: Skład społeczno-zawodowy i narodowościowy ludności Białegostoku w 1931 r. na podstawie spisu, (1980).

HAJDUCZENIA Nina: Uposażenie i gospodarka klasztoru Bazylianów w Supraślu w XVI-XVIII w., (1981).

ZIELENIEWSKI Jerzy: Bielsk Podlaski - topografia historyczna w XII-XVIII w., (1981).

CHARKO Barbara: Zabłudów i dobra zabłudowskie do końca XVII w., (1982).

GOWORKO Halina: Orla i włość orlańska w XVI-XVIII w., (1982).

MIRONOWICZ Antoni: Monaster supraski - ośrodek religijno-kulturalny w XVI w., (1982).

SIEMIENIUK Olga: Milejczyce w XVI-XVII w., (1982).

KUNDA Grażyna: Kuźnica na przełomie XIX i XX wieku. Miasto i ludność, (1982).

ŁABĘDA Anna: Pacyfikacja wsi Rajsk, (1982).

SIEDLECKI Jan: Społeczeństwo Brańska w latach osiemdziesiątych XVIII wieku, (1983).

GAŁAKAN Wiera: Brańsk i starostwo brańskie w XVI w., (1983).

PEŁSZYK Anna: Stosunki religijne w Białymstoku w XVIII w., (1983).

KUŹMICKI Piotr: Gródek nad Supraślą - zamek i jego znaczenie w dziejach osady, (1985).

OSTROWSKI Wojciech: Brańsk w okresie zaborów 1795-1914, (1985).

TRYZNA Helena: Sokółka - miasto i ludność w latach 1863-1914, (1985).

ZAKRZEWSKA-DĄB Grażyna: Zabłudów w XIX w., (1985).

MATUS Irena: Tradycje historyczne mieszkańców wsi Dawidowicze, (1987).

JURGIEL Jerzy: Białystok we wrześniu 1939 r. Ludność i wojsko, (1989).

CHORUŻY Wiesław: Działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady w powiatach: białostockim, bielskim i sokólskim województwa białostockiego w latach 1925-1927, (1990).

KURPIEWSKI Waldemar: 2 Pułk Ułanów Polskich na Wołyniu i Białorusi (21.10.1917 - 4.08.1928), (1990).

MICHALUK Dorota: Rozwój układu przestrzennego Mielnika w XIII-XVIII w. Kształtowanie się zewnętrznej granicy gruntów miejskich, (1990).

BAJOREK Mirosław: Niemiecka okupacja Białegostoku w latach 1941-1944, (1991).

ŁEWCZUK Jerzy: Białostocczyzna w granicach ZSRR (wrzesień 1939 - czerwiec 1941). Przemiany społeczno-ustrojowe i gospodarcze, (1991).

KALINA Jerzy: Białoruskie organizacje powstańcze w latach 1920-1923 na Białostocczyźnie, (1991).

KARPIUK Aleksander: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne w Polsce w latach 1956-1980, (1991).

LIEDKE Marzena: Przemiany kulturalne i językowe szlachty ruskiej Wielkiego Księstwa Litewskiego 1569-1596. Przyczynek do dziejów kształtowania się narodu szlacheckiego Rzeczypospolitej, (1992).

BUSZKO Andrzej: Powstanie Chmielnickiego na Białorusi w latach 1648-1654, (1992).

NIEMIEROWICZ Andrzej: Kulturalno-religijne znaczenie klasztoru supraskiego w XVI w. na tle ogólnej sytuacji Kościoła prawosławnego w Polsce, (1992).

PAWLUCZUK Roman: Białystok w latach 1864-1914, (1992).

IWANIUK Krzysztof: Obrona twierdzy brzeskiej latem 1941 r. Prawdy i legendy, (1993).

BIAŁOKOZOWICZ Jerzy: Białoruskie ugrupowanie parlamentarne w sejmie polskim w latach 1922-1927, (1993).

GÓRYŃSKI Marek: Polskie aspiracje rewindykacyjne na Białorusi po pierwszej wojnie światowej, (1993).

WIEJKOWSKA Joanna: Monografia parafii prawosławnej w Narwi, (1993).

PIOTROWSKA Ewa: Próba analizy demograficznej rejestrów metrykalnych chrztów, ślubów, zgonów na tle dziejów unickiej parafii Ryboły w latach 1751-1798, (1994).

FIEDORUK Maria: Monografia prawosławnej parafii Ryboły, (1994).

KALINA Mirosława: Polityka państwa polskiego wobec Cerkwi prawosławnej w latach 1918-1939 (na przykładzie woj. białostockiego), (1994).

**Р. С.**

## Адгалоскі

### Гайнаўскі інтэрнацыянал

У інтэрв'ю „Ад Амерыкі да Арменіі" („Ніва" н-р 1 ад 7 студзеня 1996 г.) было пастаўлена пытанне, на якой мове спяваюць хоры на Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі. Дырэктар Мікола Бушко адказаў: „У асноўным на царкоўнаславянскай *(г.зн. на старабалгарскай — С.К.М.)*, але эстонцы, амерыканцы, чэхі спяваюць таксама на сваёй мове". На маю думку, вышэйсказанае варта ўдакладніць.

Усе ведаюць такія стараяўрэйскія словы як *амінь, асанна, алілуя*. Румынскі хор заспяваў на арамейскай або халдзейскай мове фразу *Элі, элі, ляма сабахтані* (Божа мой, чаму Ты мяне пакінуў — словы гэтыя выкрыкнуў Хрыстос на крыжы). Дырыжор Валасюк з Любліна запрэзентаваў слухачам „Хрыстос уваскрос" на арабскай мове, а расейскі хор — на лацінскай. Натуральна, гучала таксама грэчаская мова, у якой першапачаткова створаны былі амаль усе праваслаўныя тэксты. Выконваліся яшчэ песні на армянскай, грузінскай, румынскай, латвійскай, фінскай, шведскай, украінскай, славацкай, беларускай („Магутны Божа"), расейскай („Было двенадцать разбойников"). Хор айца Юрыя Шурбака заспяваў старажытны польскі гімн „Bogurodzica Dziewica", з якім войска, у тым ліку і брэсцкі полк, у 1410 годзе змагалася пад Грунвальдам.

Я не скамплектаваў усіх даведнікаў пра гайнаўскі Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі і таму не магу сказаць, якія мовы магчыма можна было пачуць на гэтым мерапрыемстве, але вядома мне, на якіх мовах служаць праваслаўную літургію. Апрача згаданых ужо моў, у праваслаўных храмах гучаць албанская, венгерская, італьянская, іспанская, партугальская, французская, нямецкая, японская, карэйская, кітайская, эскімоская (так!), старасірыйская (у праваслаўных індусаў у штаце Керала ў Індыі), коптская (у Егіпце), гыызская (у Эфіопіі), а ў апошні час яшчэ і іншыя афрыканскія мовы.

Калісь рабіліся пераклады літургічных тэкстаў на мовы народаў былога СССР, напрыклад на мову комі-зыранскую, бурацкую ці асецінскую. У Малдове, ля горада Комрат, жыве племя цюркскага паходжання, якое гаворыць па-гагаўзску. Цікава было б даведацца, ці гэтыя праваслаўныя моляцца на сваёй ці на румынскай мове? Бачыў я зроблены ў Менску пераклад літургіі на беларускую мову. Чаму ж тады не прымяняць яго на Падляшшы, калі ва Уйкавіцкім манастыры служаць па-украінску?

**Серафін Корчак-Міхалеўскі**

---

### Маладыя гнеўныя

Прачытала я ў „Ніве" ад 14 студзеня г.г. артыкул п.з. „Моладзь пратэстуе" і падумала — дрэнна!

Маладыя беларусы абразіліся не на жарты: „Ніва" страціла дваццаць двух чытачоў.

Мяне трохі здзіўляе такая пастава маладых. За што яны абураюцца? У беларускай перадачы таксама гаварылася, што група скінаў прабавала парушыць парадак гэтага мерапрыемства. У „Ніве" гэтае здарэнне было прадстаўлена жартоўна і моладзь абурылася.

Сказ *А ці „Ніва" ад усіх іншых газет у Польшчы розніцца толькі мовай, на якой друкуецца?* абдумала я і дайшла да вываду, што закід — беспадстаўны.

Ёсць рознага тыпу газеты: у дзённіках змяшчаюцца найважнейшыя інфармацыі з рэгіёна, краіны і свету; у тыднёвіках — усё характэрнае для газет гэтага тыпу, напр. у „Скандалях" апісваюцца здарэнні, якія здаюцца неверагоднымі, але ў жыцці здараюцца; ёсць таксама крыжаванкі і кулінарныя парады.

А ў „Ніве", як у беларускім тыднёвіку, змяшчаецца ўсё. Тут друкуюцца вершы нашых паэтаў і вершы другога гатунку, важнейшыя весткі з мінулага тыдня і весткі з Беларусі, замалёўкі з жыцця, успаміны. Ёсць артыкулы на гістарычныя тэмы, праваслаўная старонка, старонка для дзяцей, парады Астрона і Сэрцайка, куток гумару і сатыры. Мне здаецца, што тут усё ў парадку, а маладыя думаюць па-другому.

Мо яшчэ прыйдзе час, што апамятаюцца і зноў стануць чытачамі „Нівы", а пакуль што, жадаю ім шчасця ў дарослым жыцці.

**Аўрора**

---

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XLI

Фёдар Баршчэўскі цікава гаварыў аб сітуацыі беларускай мовы перад вайной і параўноўваў са станам у пасляваенны час. Лічыў ён, што беларуская мова апынулася ў вельмі дрэнных умовах і што няма магчымасці яе абараніць:

„Ты мне тут аб'ясняў, што гэто значыт малая родзіна і вяліка родзіна. То я табе скажу, што я гэто ўсё дзело передумаў сабе ноччу і мушу сказаці, што ты тут маеш рацыю. Яно і направду так палучаецца, што мае чалавек і малую, і вяліку родзіну. У яго ест так, што калі жывеш тут на месцы, ну то глядзіш на рэчку, чы на мост, чы на бярозы на выгані, чы на поле, чы на лес і нічого асобеннаго ні бачыш. Ну, рэчка як рэчка, мост як мост, бярозы як бярозы, поле як поле і лес як лес. Але калі цябе толькі судзьба адарве ад гэтае, як ты кажэш, малое родзіны, то ўжэ гэто ўсё мае незвычайны характер. От, як мяне палякі ўзялі перад вайною ў армію, то бывало паганяют нас за цэлы дзень як сабак і думаеш толькі аб адным, каб дабегчы да ложка, упасці і заснуці, мой пане. Ну і што ты думаеш? Урэшце, калі ўжэ ўсё скончыцца і дападзеш да ложка, упадзеш у пасцель і заснуці ні можэш, хоць ты халеру дай. Думаеш, і думаеш, і думаеш пра тое, што ў Бандарах пакінуў. І ўжэ і тая рэчка, і той мост, і тая бяроза, і тое поле, і той лес то ўсё гэто здаецца табе ўжэ такое харошэ, такое чудзеснэ, такое дарагое і нішто іншэ на свеці ні можэ з імі параўняцца. І хочэцца табе толькі аднаго, каб як найхучэй туды вернуцца. Ну а што ўжэ касаецца хаты, то аб чым толькі, што ў ёй ест, падумаеш, то аж сэрцо шчыміт, так да ўсяго гэтаго хацеласё б вярнуцца. То бачыш, яно палучаецца так, што аб тым, як моцно штось любіш, то даведаешся толькі тады, калі цябе ад яго сілаю забярут. То я цябе тут поўнасцю панімаю, калі гаворыш, што чалавек мусіт меці штось такое, што ест найдаражэйшэ. То штось такое як з мацераю роднаю. От, калі жыве, то сын чы дачка і ні слухают яе, і сварацца, і бывае такое, што і б'ют старую, а як яна памрэ, то і бедуют, і плачут, і шкадуют.

А што касаецца нашаго языка, то яго ўвялі ў нас у школу за першых саветаў у 1939 року. То я табе скажу, што было прыятно слухаці, хоць і крыху дзіўно, што дзеці прыйшоўшы з школы дахаты і чыталі па-беларуску, і вершыкі беларускі гаварылі, і песні беларускі співалі. Але ўсё гэто коратко трывало, бо прыйшоў немец і вогуле школу ў Рыбаках злiквідаваў. Дзеці засталіся без школы, мой пане. Зрэштаю, ты сам аб гэтым знаеш, бо і ты тады ў школу ні хадзіў. Ну а после вайны то пару лет у школі вучылі па-беларуску, але после то зліквідавалі беларускі язык, ну і ўсё. Зрэштаю вогуле школу ў Рыбаках зліквідавалі і дзіцей аж у Шымкі валочат. Ты толькі паглядзі на нашы вёскі. Нідзе німа маладых. А як німа маладых, то німа і дзіцей. Эмэрыты дзіцей табе рабіці ні будут, мой пане. А раз ні будзе дзіцей, то ні будзе і беларускаго языка. Ты ж сам добрэ знаеш, як цяпер бацькі да дзіцей на вёсках гаворат. Пшэкают і ўсё. Калісь, то каб хтось з нашых людзей пачаў да сваіх дзіцей гаварыці па-польску, то яго на гуліцу ні выпусцілі б, засміялі б. А сегодня ніхто з такого не сміецца, а нават з яго бярэ прымер. От, бачыш, мы тут да дзіцей па-польску, а за граніцаю да дзіцей бацькі па-руску гаворат і такім образом для беларускаго языка ўжо ніякаго месца німа.

Ты знаеш, што мы, беларусы перад вайною ў войску то паміж сабою гаварылі па-беларуску, а сегодня то, барані Божэ, беларус да беларуса ў войску па-своему ні адазвецца. Чом яно так ест? А том, што баяцца. Я гаварыў аб гэтуй справі з каждым салдатом ад нас і ўсе яны гаворат тое самае. Баімосе, кажут, каб не затаўклі. От табе і маеш дэмакрацыю. То перад вайною была ўласць буржуйска і не баялісе, а цяпер дэмакратычна, а баяцца. То што гэто такое, мой пане?

Гавары што хочэш, але языка сваго мы ўжэ ні абаронім ні тут у гэтуй, як ты кажэш, малой родзіні, ні там за граніцаю ў велікуй родзіні. Ну што ж, відно такая наша судзьба. А проціў судзьбы то нічого ні парадзіш, трэбо паддацца ёй і ўсё, мой пане".

**Алесь Барскі**

---

# Праблемы дзядзькі Івана

Прэса, радыё, тэлебачанне ад некалькіх тыдняў жывуць адной тэмай: ці прэм'ер-міністр Рэчы Паспалітай Юзэф Алексы быў шпіёнам, ці толькі сябрам шпіёна. Неяк пры нагодзе ставіцца пытанне: колькі яшчэ, апрача прэм'ер-міністра, палітыкаў, пра якіх пішацца на першых старонках газет, супрацоўнічала з чужымі разведкамі. 18 студзеня ў першай праграме польскага тэлебачання былы міністр унутраных спраў Антоні Мацярэвіч заявіў нават, што ў Польшчы няма польскіх спецслужбаў, ні польскай разведкі, а толькі нейкія астаткі савецка-пээнэраўскіх структур.

Ці можа быць нешта больш цікавае ад звестак, якія кожны дзень выплываюць з найбольш сакрэтных канцылярыяў краіны, ад найлепш паінфармаваных асоб у дзяржаве. А тут прэзідэнт Кваснеўскі абяцае апублікаваць на дадатак спісак даносчыкаў бяспекі і ўсіх супрацоўнікаў замежных разведак. Для нашых польскіх калегаў-журналістаў прыйшоў час жніва, тэмы для артыкулаў, фельетонаў, размоў з палітыкамі проста чакаюць на аўтараў. Тыднёвік „Wprost", які надрукаваў дакументы пра супрацоўніцтва кіраўніцтва Саюзу левых дэмакратаў з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі Расіі, разышоўся амаль трохмільённым тыражом. Дзякуючы палітыкам польскія журналісты маюць цяпер нагоду не толькі даволі добра зарабіць, але таксама стаць гарантам высвятлення закулісся шпіёнскіх скандалаў, у якіх галоўнымі героямі сталі кіраўнікі дзяржавы. Нават у Лацінскай Амерыцы не надта часта здараюцца такія падзеі. Пры нагодзе варта заўважыць, што, апрача аднаго генерала бяспекі, ніхто яшчэ не пагражаў журналістам за тое, што сказалі ў гэтай справе. Засцярогі міністра Мілера адносна таго, што апублікаваў тыднёвік „Wprost", будзе звычайна разглядаць суд. І ўсё паказвае, што тыраж гэтага часопіса, дзякуючы абурэнню міністра, будзе ўзрастаць.

Але ці гэтая пісаніна і гаварыльня мае нейкі ўплыў на спосаб мыслення звычайнага грамадзяніна, напрыклад Івана Іванюка, жыхара перыферыйнага квартала Беластока.

— Ужо не хочацца слухаць гэтай балбатні пра таго Алексага, — кажа дзядзька Іван. — Прычапіліся да чалавека, як толькі Валэнса прайграў выбары. Не далі рады справіцца з Кваснеўскім, то ўзяліся за Алексага. Ксяндзы не могуць змірыцца з пройгрышам і зноў рыхтуюцца да пераваротy.

— А мне там усё роўна, хто нас абкрадае, — прадстаўляе свае па-літычныя меркаванні суседка Іванюка, спадарыня, якая ў рубрыцы „прафесія" ад трыццаці гадоў піша „гаспадыні домова".

Вернемся аднак да дзядзькі Івана і яго праблемаў. Дзесяць гадоў таму назад закончыў ён пабудову трохпавярховай хаткі ў падбеластоцкай ваколіцы. Высушыў пры тым бацькоўскую гаспадарку, але ніхто з гэтай прычыны не сумаваў. Бацькі Івана, пенсіянеры, жывуць цяпер „як паны". Разам маюць пяць мільёнаў „рэнты", а да таго яшчэ тры „за малако". Два вепрукі ў іх хляве штогод даюць Івану магчымасць годна адзначыць Калядныя і Велікодныя святы паводле юльянскага календара. Сам Іван, наш герой, не выглядае таксама на такога, што сароць з-пад хваста выпаў. На працу ездзіць навейшым тыпам „Трабанта" і штомесяц атрымлівае „на рукі" сем мільёнаў. Жонка дакідае яшчэ чатыры. Дачка закончыць у гэтым годзе ліцэй і рыхтуецца „пайсці на студыя". Але нешта хвалюе нашага спадара Іванюка. Выпіўшы чарку праклінае Валэнсу, ксяндзоў, салідарнікаў, настальгічна ўспамінае камуну, а асабліва час „за Герка".

— Як тут жыць, — кажа. — Нібыта зарабіў сем мільёнаў, шмат граша, але прыслалі рахунак за газ на пяць з паловай мільёна, а паўтара за электраэнергію. Далічыць да гэтага аплаты за тэлефон і ваду, а выходзіць на тое, што трэба аддаць больш чым зарабіў. У канцы года была страхоўка за самаход, цяпер нейкі дарожны падатак, хаця дарог за яго ніхто і нідзе не будуе, а на дадатак яшчэ дачка заявіла, што „стаднёўка" будзе каштаваць каля трох мільёнаў.

— І што мяне можа цікавіць хто, каму і за колькі даносіў, хто чым шпіёнам быў, — прадаўжаў дзядзька Іван. — А хай сабе ўсе яны шпіёнамі будуць, абы толькі людзям жыць дазволілі. Выйдзе такі Мачульскі ці Альшэўскі і пляце херню, што нібыта Алексы, Кваснеўскі, Цімашэвіч гэта камуна. А я пытаю, якая гэта камуна? Гэта проста разумныя людзі, толькі што з лявіцы і таму іх так не любяць, бо перашкаджаюць салідарнікам раскрадаць дзяржаву. Можа і лявіца паправіла б гаспадарку, дала б людзям працу і адпаведную плату, але ксяндзы не дазволяць ім „пажондзіць". Няма цяпер такога гаспадара як калісь быў Герэк. Добра тады людзям жылося, — закончыў свой палітычна-эканамічны даклад дзядзька Іванюк.

Няма сумненняў, на каго наш сябра Іван будзе галасаваць падчас кожных чарговых выбараў. Але падпішацца таксама на спіску ў падтрымку кандыдатаў нейкага беларускага камітэта.

— Бо ўсе мы рускія, значыць беларусы, — скажа. На канец толькі запытае: — А навошта вам, хлопцы, гэты беларускі камітэт? Падумайце, ці варта разбіваць сілы? Не лепей было б далучыцца да нашых?

**Васіль Кургановіч**

# Казанова -рэкецёр

Казанова-рэкецёр,
У Матруны станік спёр,
Сцібрыў не дзеля красы
Югаслаўскія трусы.
Калі Верка пала ніцам —
Знікла пекная спадніца.
Кацярын, Ірын і Светак
Ён пакінуў без шкарпэтак.
Перабраўся да Тарзэы —
Прыхапіў усе адрэзы.
У даверлівай Шарлоты
Згроб даляры, маркі, злоты.
Як прыйшоў з Ізольдаю —
З ганка з'ехаў мордаю:
Валацуга больш заўзяты
Абчышчаў у бабы хату.
— Хопіць, — вырашыў, — спацеў,
Усіх кахаў, хоць не хацеў.
Каго сілай, каго смехам —
Вось была з дзяўчат пацеха!
Хто — смяецца, каму — драма.
А ў мяне нарэшце — крама.

# НІЎКА



Малюнак В. Гагалушкі

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

— Чаму, калі п'еш гарэлку, заплюшчваеш вочы?
— Лекар забараніў заглядаць у чарку.

* * *

Коля сеў на аўтобус са сваім сабакам і стаў каля шыкоўнай дамы. Гэтая глянула на сабаку і прашыпела праз зубы:
— Забярыце яго, бо мне блохі па нагах скачуць.
— Рэкс! — загадаў Коля, — хуценька адсунься ад гэтай пані, у яе ёсць блохі.

* * *

— Ці ёсць дэнатурат?
— Няма.
— То дайце якое іншае віно.

* * *

— Апошнім часам атрымоўваю лісты з пагрозамі.
— Паведамі паліцыю.
— Нічога не паможа — іх прысылае казначэйства.

* * *

— Вы звіхнулі руку больш як тыдзень таму. Чаму не з'явіліся вы ў мяне адразу? — пытае лекар пацыента.
— Бо калі толькі скардзіўся жонцы, што мне нешта дакучае, яна зяўсёды прыказвала: „Мусіш кінуць курыць!"

* * *

Афіцыянты ў рэстаране:
— Чаму дагэтуль не выкінуў таго п'яніцу, што спіць пад акном?
— Бо кожны раз, калі яго буджу, плаціць мне рахунак.

* * *

— З гэтаю хваробай вы можаце жыць яшчэ і сто гадоў, — гаворыць лекар пацыенту.
— То мне аж так пагоршылася?
— Чаму пагоршылася?
— Бо калі апошнім разам наведваў вас, вы гаварылі што магу пажыць яшчэ дзвесце гадоў.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:
— Пан доктар, не магу адвыкнуць ад курэння.
— А прабавалі жавачку?
— Прабавала, але яна не гарыць.

* * *

Да лекара тэлефануе баба:
— Пан доктар, прыедзьце хутчэй — мой муж праглынуў іголку.
Праз хвіліну звоніць ізноў:
— Не прыязджайце — удалося мне знайсці другую.

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

# Кастрацыя

## або

# Новае адзенне Імператара

Ёсць яшчэ такія дамы, дзе на гарышчах агромных, уціснутыя ў самыя цёмныя куткі, дрэмлюць старыя, часта яшчэ пасажныя куфры бабуляў. Забытыя людзьмі, перажываючы сваю мінуўшчыну, не памірыліся з лёсам, чакаюць толькі канчатковую буру, каб даканаць сваё жыццё пад руінамі сядзібы... У такім куфэрку, сярод усякага барахла, наткнуўся я на непрыкметную, пажаўцелую кніжачку. „Казкі" — такі звычайны загаловак даў ёй аўтар, нейкі Ян Крыстыян Андэрсенюк. Шмат што з гэтай кніжыцы на працягу гадоў паспелі ўжо прачытаць мышы, штосьці развеяў вецер, які ўрываўся сюды праз рассохлыя шчыліны, але ўсё ж адна казка захавалася амаль поўнасцю.

Прачытаўшы тую казку, я не мог адагнаць ад сябе думкі, што краіну ў ёй прадстаўленую я ўжо калісьці бачыў — мо ў „папярэднім жыцці", мо ў нейкім іншым маім увасабленні, але ўжо ж яна мне вядомая. Калі не верыце, дык прачытайце. Вы, пэўна, тую краіну таксама ведаеце.

За гарамі, што падтрымліваюць неба, за лясамі, што разганяюць хмурыны, за рэкамі, якія абмываюць стому, была краіна. Даволі вялікая, даволі багатая і шматлюдная. А валодаў краем Імператар моцны і строгі. Закаханы ў Армію, штодзённа склікаў галоўных генералаў, каб выслухаць чарговы расказ пра яе мужнасць, нязломнасць ды сілу.

— Толькі чалавек з бязвартаснымі яйцамі можа нешта благое сказаць пра нашае войска. Ці ж не так будзе, генерал Гарошак? — звярнуўся Імператар да першага генерала.

Што ж мог адказаць паважаны Гарошак, які паводле шаптанай легенды валодаў найбольш прадуктыўнымі яйцамі ў дзяржаве?

— Ой, Вашае Вялічаства! — азваўся генерал. — Няма такое буры, якая магла б здзьмухнуць нашу Армію! І няма такога агню, які здолеў бы спаліць яе!

Імператару спадабаўся адказ. Быў ён, аднак, нягледзячы на сваю пазіцыю, толькі чалавекам. А чалавек, вядома, прыемныя для сябе паведамленні можа слухаць доўга, ой, як доўга! Амаль бясконца!

— А што скажаце вы? — спытаў Імператар другога генерала.

Генерал Акрошак, які на гэтым белым свеце правёў ужо паўстагоддзя, меў аб сваіх яйцах толькі найлепшыя думкі. А генералавы яйцы не маглі выказацца пра свайго гаспадара толькі таму, што натура не абдорыла іх ні вуснамі, ні галасавымі звязкамі.

— О, Вашае Вялічаства! — азваўся генерал Акрошак. — Храбрасць тыгра, велічыня кіта, мудрасць савы, хітрасць лісіцы не раўня нашай Арміі!

Больш сказаць генерал Акрошак не змог, хваляванне адняло яму мову. І няма чаму здзіўляцца! Нават сам Імператар, гэты памяркоўны мужчына, які ў сваім жыцці плакаў адзін-адзіны раз — тады, калі яму адрэзвалі пупавіну ад матчынага лона, — цяпер вось адвярнуўся і крадком змахнуў слязу хвалявання.

Жывучы ў цяні Імператара і ягонай Арміі, народ адчуваў сябе бяспечным.

Здарылася неяк увосень, што над межамі краіны пачалі збірацца чорныя хмары. Конскі тупат заглушаў музыку пушчы, бразгатанне зброі палохала птушанят у іхніх патайных схованках.

І пайшлі харугвы ў бой.

Вораг наступаў і перамагаў.

Пазваў Імператар генерала Гарошка — справаздачы дамагаецца.

— О, Ваша Вялічаства! Палову непрыяцеля мы ўжо знішчылі! Няхай жыве нашая несмяротная Армія!

Мінуў дзень, прайшоў другі. А вораг стаіць ужо пад мурамі сталіцы.

Пазваў Імператар генерала Акрошака.

— О, Ваша Вялічаства! Усіх непрыяцеляў мы выбілі, да кораня высеклі! Няхай жыве нашая непераможная Армія!

А вораг ужо быў на дзядзінцы палаца.

І толькі тады ўбег на палацовыя пакоі малады рыцар Прот, герба Абух.

— О, Імператар! Няма ўжо нашай Арміі!!! Няма нашых хлопцаў, сакалікаў залаценькіх!.. Вораг за сцяною!

Знерваваўся Імператар, пачуўшы такое! Закіпеў ад злосці!

— Выкастраваць! — закрычаў уладар. — Абцугамі вырваць ягоныя бязвартасныя яйцы!

Расцягнулі неразважнага ваяра на стале, абдзерлі з адзення. Прыдворны цырульнік паспеў выпакладаць адно згаданае, калі ў пакой уварвалася разведка варожае арміі...

Тут і казцы канец. Апошнюю старонку кніжачкі пакаштавалі мышы-непаседы. Усё ж такі заканчэнне можна сабе прыдумаць. Хапіла б сказаць так:

Ёсць на свеце такі народ: даволі багаты, даволі разумны, даволі справядлівы. Напалову выкастраваны сваімі ды чужымі імператарамі. І не жыве ён, і не гіне.

**Міхась Андрасюк**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Ты ўсё пішаш пра самотных, кінутых жанчын, дзяцей, адным словам, пра тых людзей, што ўжо „на вока" нешчаслівыя. А ты часам падумай і пра тых, якія ўсім здаюцца шчаслівымі, а ў душы маюць вялікія комплексы.

„На вока" ўсё ў маёй сям'і ў парадку. Добра зарабляючы муж, двое здаровых дзетак, прасторная кватэра. Муж аддае мне ўсе грошы, дзеці не хварэюць, у кватэры няцесна, а мне часамі на душы робіцца моташна.

Справа ў тым, што ў сексуальных справах мой муж не такі добры, як у зараблянні грошай. Не, не! Не падумай, што не мае „валёраў"! Не, у гэтых адносінах якраз усё ў парадку, а можна сказаць, што нават задобра. Але няма тае атмасферы кахання, калі надыходзіць пара зносін. А хачу табе сказаць, што жанчыне гэта бадай неабходна ў сексуальным жыцці.

Жанчына любіць слухаць чуллівыя словы, хоча, каб яе муж цалаваў, прытуляў і песціў, пакуль што да чаго. А мой муж такіх „метадаў" не прызнае. Ён прыступае адразу „да дзела".

Ну, няхай бы сабе і прыступаў ужо адразу. Але каб прынамсі было гэта ў згодзе з маім псіхафізічным станам. А ён жа гэта робіць толькі і выключна тады, калі ён мае ахвоту. Я магу смажыць катлеты, прыбіраць кватэру, мыць бялізну, дзеці могуць гуляць у хаце, а яму да гэтага справы няма.

Тады не хоча катлетаў, не дасць скончыць ні ўборкі, ні сціркі, выпраўляе дзяцей на двор. Мусіць адразу рэалізаваць свой сексуальны інстынкт. Я, часта змучаная і пахнучая цыбуляй, павінна кінуць усё і забаўляць яго ў ложку. Нават памыцца не дасць, усё тады яму пахне — і пот, і цыбуля. Бруталь!

Часамі прашу: пачакай, дай адпачыць, ды і не заўсёды ж адно гэтыя справы ў галаве, калі двое дзетак на маіх руках — пяць і восем гадоў. Але ён чакаць не ўмее.

Ну, ладна, згаджуся я ўжо, ён сваё зробіць, а я — толькі цяпер разбуджаная, прагнучая кахання, тулюся да яго, цалую. Думаеш, ён адказвае на мае пяшчотныя словы?! Гоніць, каб падавала ўрэшце тыя катлеты (гэта бывае найчасцей у суботу ці ў нядзелю), а ў будзённы дзень, калі зносіны ў нас адбываюцца пераважна ўначы, або ў час пасляабедняга драмання, адварочваецца ад мяне і адразу спіць.

Што рабіць, сама ўжо не ведаю. Мне ж усяго 32 гады. Жыццё яшчэ перада мной... Мушу табе прызнацца, што ён быў такі ад пачатку. Распачалі мы сексуальнае жыццё даволі рана — калі нам было па 16 гадоў. І ўжо ў самым пачатку нашага знаёмства я адразу заўважыла, што ён няраз пасля зносін адварочваецца ад мяне, робіцца абыкаявы, а часамі нават непрыемны. Якраз тады, калі мне была патрэбна блізкасць. Браў мяне тады, калі хацеў і адкідаў, як нешта ўжо непатрэбнае... Прынамсі так я гэта няраз адчувала. Думала, што калі мы будзем ужо заўсёды разам, я патраплю яго змяніць, нешта паправіць у нашых зносінах.

Як бачыш, я глыбока памылялася. За 10 гадоў нашага супольнага жыцця я ў гэтых адносінах нічога не змагла зрабіць. Застаўся ён такім, якім быў. Мая сяброўка, якой я расказала пра ўсё гэта, сказала мне: ты б адно хацела, каб мужчына „мяўкаў". А што будзе, скажы, калі я сапраўды сустрэну ў жыцці такога чалавека, які б любіў і ўмеў „памяўкаць" часамі (і перад, і пасля). Ці не пераверне ён дагары нагамі ўсё маё жыццё? Можа ты падказала б мне, што зрабіць, каб неяк змяніць паводзіны майго мужа-брутала?

**Лідка**

Лідка! А можа ў гэтым выпадку прыдалася б большая актыўнасць з твайго боку? У мужчын жа ўсё адбываецца крыху інакш і эмацыянальнае ўзбуджэнне мінае пасля зносін значна хутчэй, чым у жанчын. Мо ты сама навучыла яго, што трэба атакаваць, бо не паказвала занадта сваіх пачуццяў, заангажавання? Паспрабуй ты быць „брутальнай" — і можа гэта якраз будзе мець сэнс.

**Сэрцайка**

P.S. Адна дзяўчына выйшла замуж за старога палкоўніка. Леглі ў ложак пасля вяселля, а ён — нічога. На другую ноч — зноў нічога. Тады жонка пытаецца: „Дарагі, а як часта адбываюцца наогул зносіны?" „Калі ён — бруталь, дык два разы ў год", — адказаў стары палкоўнік, адвярнуўся і захроп. А ты кажаш, бруталь...

**С.**

## Народныя прыкметы надвор'я ў лютым

Студзеню — маразы, лютаму — мяцеліцы.

У лютым дажджы — мокрыя вясна і лета.

Пытаецца люты, ці добра абуты.

Які снег у лютым, столькі травы ўлетку.

Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ.

Калі ў лютым маразы востра трымаюць, зіме блізкі канец абяцаюць.

Калі кот у лютым на сонейку выграваецца, тады ў сакавіку — на запечку.

На Цімафея-паўзімніка пачынаюцца мяцеліцы.

Многа снегу — многа хлеба, многа вады — многа травы.

Лес шуміць — чакай адлігі.

Снег наліпае на дрэвы — будзе цёпла.

Вароны каркаюць чарадой — да марозу.

Сабака качаецца — на адлігу, снег.

Аксіння дарогу перамяце, а корм — падмяце.

Якая Аксіння — такая і вясна.

Вецер на Яфрэма — да сырога году.

Як на Грамніцы (15.II) распускае, тады рэдкі ўраджай абяцае.

Калі на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юрыя (6.V) наесца вол травіцы.

На грамніцы палавіна зіміцы. Грамніцы — скідай рукавіцы.

На Мацея (24.II) зіма пацее.

Мацеевы ільды абяцаюць халады.

Як зіма без марозу, так вясна без шкоды не абыдуцца.

Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена.

Зіма цёплая — сіроцкая.

Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш.

Зіма, як казна, сваё возьме.

Зіма на лета робіць, а лета на зіму.

Зіма ўцякае цёмнымі начамі.

Шэрань на дрэвах — на мароз. Туман звычайна бывае перад адлігай.

Вераб'і хаваюцца ў ламачча — на мароз, мяцеліцу.

Паветра над лесам становіцца сінім — будзе цёпла.

Месяц уначы набывае чырвоны колер — чакай ветру, цяпла і снегу.

Удзень плюшчыць, а ўначы трашчыць.

Прыйшоў Прохар ды Улас — скора вясна ў нас.

Калі ў лютым трымаюць сталыя маразы — лета будзе гарачае.

Люты халодны і сухі — жнівень гарачы.

Вялікія белыя кругі вакол сонца або месяца, а таксама слупы каля сонца паказваюць на надыход вострых маразоў.

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Каб ты ведаў, які мілы сон мне прысніўся. А ўсё ж такі нейкая ўнутраная трывога не дае мне спакою.

Быццам я знаходжуся не ў сваім горадзе, але не ведаю, у якім. Бачу перад сабою ні то нейкую эстраду, ні то нейкі рынг. Выступае там маленькі беленькі сабачка. А мо ён там загараў?! Лета, гарачыня. Мне здалося, што гэтаму сабачку вельмі горача, ён вось-вось можа самлець. Я падыходжу да гэтага нібы-рынга і праз агароджу бяру шчанятка на рукі. Тулю да сябе, а ён, такі, беленькі, з чорнымі вушкамі, чамусьці па форме напамінаў мне панду.

Іду я і раптам бачу свайго былога хлопца. Я абняла яго, а між намі — сабачка. Гляджу, а сабачка быццам не дыхае (а ўсё з-за таго, што мы так моцна прытуліліся). Мне здалося, што гэта сабачка майго калегі з працы, і я ўзяла шчанё, каб занесці яму і аддаць. Што ж я цяпер зраблю, калі яно здохне?!

Іду ў роспачы далей, далікатна прытуляючы сабачку да грудзей. Гляджу, ідзе мой калега, яго гаспадар. І сабачка паволі акрыяў. Я бачу, што ўжо ўсё з ім у парадку, ён глядзіць вачанятамі, дыхае і цёпленькі.

Слёзы радасці пацяклі з маіх вачэй. Што будзе?

Рэня

Рэня! Сапраўды нейкія праблемы ў тваім жыцці будуць. Мо ўся твая віна будзе ў тым, што сустрэнеш свайго папярэдняга хлопца. Бо ж праз тое ваша прытуленне сабачка страціў дыханне. Але, дзякуй Богу, неяк акрыяў у цябе на руках, калі ўбачыла ты яго гаспадара. Праблемы скончацца добра. А яшчэ ж і расплакалася ты ад радасці. Усё будзе ў парадку!

Астрон

## Позірк у гісторыю

**4 лютага**
1915 г. — пачатак зімніх баёў на Мазурах. На працягу трох тыдняў у нямецкі палон папала к. 100 000 расейскіх салдат.
1945 г. — пачатак Ялцінскай канферэнцыі.
**5 лютага**
62 г. — Пампеі і Геркуланум у падножжаў Везувія разбураны землятрусам.
1840 г. — нар. Джон Данлап, вынаходца гумавых шынаў.
1974 г. — амерыканскі зонд *Mariner 10* выканаў першыя блізкія здымкі воблакаў Венеры.
**6 лютага**
1875 г. — у Германіі увайшоў закон Бісмарка абавязковага грамадзянскага запісу шлюбаў і разводаў.
1914 г. — нар. паэт Аркадзь Куляшоў.
**7 лютага**
1613 г. — на расейскі трон выбраны Міхаіл Раманаў, якога дынастыя панавала да 1917 года.
1906 г. — нар. Алег Антонаў, савецкі авіяканструктар.
1971 г. — у Швейцарыі жанчыны атрымалі выбарчыя правы.
**8 лютага**
1725 г. — памёр Пётр I Вялікі, цар Расеі.
1921 г. — нар. пісьменнік Іван Мележ.
1926 г. — Уолт Дысней заснаваў сваю кінастудыю.
**9 лютага**
1852 г. — прапрэм'ера оперы „Ідылія" ў Мінску. Дырыжыраваў аўтар музыкі Станіслаў Манюшка. Лібрэта напісаў Вінцук Дунін-Марцінкевіч.
1991 г. — рэферэндум у Літве выказаўся за незалежнасцю ад Масквы.
**10 лютага**
1258 г. — манголы разбурылі Багдад і пакончылі з абасідскім халіфатам.
1837 г. — памёр Аляксандр Пушкін, расейскі паэт.
1923 г. — памёр Вільгельм Рэнтген, нямецкі фізік.
1981 г. — ген. Ярузельскі пераняў ад Юзэфа Пінькоўскага пост прэм'ерміністра Польшчы.

**(Ш)**

## КРЫЖАВАНКА

**Гарызантальна:** 3. водгук, 8. дзяржава ў Персідскім заліве, 9. літаратурны род, 19. кампанент паветра, 11. урачысты агляд войск, 13. спецыяльны прыбор, 15. сталовая, 16. французская пані, 20. карэла-фінскі эпас, 22. займаецца карэктурай, 23. сын Аўраама, 27. напр. скульптарка, 29. Іван, князь маскоўскі (1325) і вялікі князь уладзімірскі (1328—1340), 30. каштоўны мінерал, 31. мацуе агloблі да хамута, 32. жаночае імя, 33. горад у Балгарыі, 34. горад у Расеі, слаўны самаварамі.

**Вертыкальна:** 1. хатня жывёла, 2. горад на Волзе, 4. чужаземныя асаблівасці, 5. за іканастасам, 6. вяроўка з пятлёй, 7. сукупнасць частак, якія ўтвараюць цэлае, 12. напр. Дж. Картэр ці Б. Клінтан, 14. спрэчка, 16. змолатае зерне. 17. пласкадонная лодка (*дора*), 18. не дзед, 19. паказвае шлях караблям, 21. анёл вышэйшага рангу, 24. сухія сцёблы пасля абмалоту, 25. абярэмак, можна яго абхапіць дзвюма рукамі, 26. імя Шаўчэнкі, 27. фрыгійскі цар, які сваім дотыкам замяняў усё ў золата, 28. папярэдні прэзідэнт Егіпта.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 51 н-ра:**

**Гарызантальна:** Анон, шаман, Еўропа, азон, загад, цішыня, дзяўчына, курыя, імпрэсія, песнярка, галка, скалалаз, трапар, Нікан, арыя, парнік, Дунай, сказ.

**Вертыкальна:** какаду, малады, назоўнік, ненцы, груша, кпіны, дзялянка, інтрыган, Кіпр, раса, асёл, мяса, мамалыга, азімут, Кракаў, аркан, спіна, Аракс.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Мікалай Сазановіч з Навінаў-Вялікіх і Лукаш Пацэвіч з Беластока.**

## ПАРНАСІК

### Зіма і праца

Зіма — бачым, якая яна ёсць:
Падчас бярэ нас і злосць
Калі мароз дабярэцца да касцей,
Дахаты ўцякаем найхутчэй.
Хаця ў хаце не будзем цэлы час
сядзець,
Каб кусок хлеба мець.
І яшчэ апрача хлеба
Ёсць сялянская патрэба.
Маем сваю работу, заняткі,
Штодзённыя клопаты, парадкі.
Наш абавязак усё зрабіць
Нават тады, калі нешта баліць.
А калі працуем прафесіянальна,
Трымаемся дзён і гадзін спецыяльна.
Так час і жыццё бяжыць:
Хочам ці не хочам, будзем даражыць!
Лодыр інакш — ад зімы хоча скрыцца,
Яму непатрэбна з ёю біцца.
Праляжыць на печы як кот;
Абы толькі прысмакі падалі ў рот.
Ды ад Вялікадня хлеба галодны
Пралетарый — герой калісь модны.
Зіма — час роздумаў, рэфлексій,
Дык прад'явім жыццёвы вэксаль:
Зіма для нас патрэбная —
Для працавітага ндрэнная!

**Мікалай Панфілюк**

### Зіма

усюды бела-бела
на свеце чыстата
прырода адпачывае
пара і нам адпачыць
ад сварак і гневу
ачысціць душу ад
зайздрасці і мсціваці
усё даравадь ворагам
прасіць Бога за іх здароўе
нікому зла не рабіць
на штодзень лепшымі быць

**Аўрора**

### Маладосць

Маладосць — уся ў гэтым справа,
Што гэта жыцця вясна.
Жыццё, красу ды вяселле —
Усё ахопіць яна.

Няважна, што леглі на цела
Гібельным цяжарам гады.
Толькі б душа не старэла,
Мы — маладыя тады.

Калі старэць не захочам,
Не верым календару.
Пакуль свецяцца вочы,
Мы ў сваю верым зару.

Нам восень жыцця не грозна,
Як лета, восень, зіма.
На радасць ніколі не позна,
На гэта законаў няма.

**„Улас"**

### Гукі

Жыву, хлеб ем, няма для мяне мукі.
У вушах мне чуюцца рэальныя гукі:
Салаўінае цёхканне,
У рэчцы кваканне жаб,
Рагатанне падлеткаў,
Смех вясковых баб,
Кукарэканне пеўняў,
Іржанне каня...
Я ў горадзе,
А здаецца,
Я ў двары
Валодзі Пяня!

**Мар'я Пень**

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.